Прачытай сам і перадай другому.

№ 19 (4579)

12 сакавіка 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.



*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою.*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**Дзякуй усім, хто падтрымлівае «Народную Волю» ў гэты надзвычай цяжкі час.**

*Рэдакцыя.*

БЛІЦ

*Пра тое, што ў Сеціве з'явіцца фільм пра «палацы Лукашэнкі», здаецца, першым сказаў ён сам. І сапраўды, 8 сакавіка вечарам велізарная колькасць людзей многае ўбачыла на ютуб-канале. На ўчарашні дзень фільм цяпер усім вядомага Сцяпана Пуціцы паглядзелі больш за два мільёны чалавек (!). Няхай прафесійныя рэцэнзенты раскладаюць усё па палічках, а «Народная Воля» вырашыла звярнуцца да шэрагу вядомых асоб толькі з двума пытаннямі:*

## 1.Колькі ўрадавых рэзідэнцый дастаткова мець Беларусі? 2.Які лёс павінен напаткаць «лішнія» рэзідэнцыі?

**Андрэй ДЗМІТРЫЕЎ, адзін з кіраўнікоў кампаніі «Гавары праўду»:**



– Калі я балатаваўся ў прэзідэнты, то ў маёй праграме было прапісана, што нам патрэбна пазбавіцца ад такой колькасці ўрадавых рэзідэнцый, якую маем сёння. Не можа быць у краіне, якая не ганарыцца сваімі даходамі і высокім узроўнем жыцця насельніцтва, рэзідэнцый больш, чым у англійскай каралевы. Дастаткова адной – для нейкіх дыпламатычных прыёмаў і гэтак далей.

Усё астатняе трэба выстаўляць на аўкцыён, прыватызаваць альбо рабіць дамы адпачынку. А грошы, якія атрымаюць за гэта, трэба накіроўваць у адмысловы Фонд жылля для настаўнікаў і медыкаў рэгіёна. Гэта зараз больш актуальная задача. Нам патрэбна зрабіць так, каб медыкам і педагогам было цікава ехаць у рэгіёны і працаваць там. Вось гэта была б карысць! А ад таго, што ў цябе 15 ці 20 рэзідэнцый, карысці не будзе. Іх жа трэбна не толькі пабудаваць, але і ўтрымліваць.

**Радзім ГАРЭЦКІ, акадэмік:**



– Ніколі не думаў над гэтым, хаця, як мне падаецца, шмат рэзідэнцый нам не патрэбна.

**Тэнгіз ДУМБАДЗЭ, дэпутат Палаты прадстаўнікоў:**

– Я не думаю, што ў Беларусі сотні ўрадавых рэзідэнцый. Такія рэзідэнцыі – абавязковы атрыбут у кожнай краіне.



Да таго ж трэба разумець: ніхто не вечны на гэтым свеце. І ніхто за сабой у магілу рэзідэнцыі не пацягне. А можа, і дзеючая ўлада, калі будзе такая неабходнасць, аддасць іх пад нейкія дабрачынныя праекты.

Але маё меркаванне: у кіраўніка краіны павінны быць прыстойныя рэзідэнцыі. Гэта ж першая асоба краіны! Любы замежны госць высокага ўзроўню, які прыязджае ў Беларусь, павінен быць прыемна здзіўлены. Добрыя рэзідэнцыі сведчаць пра тое, што ў краіне ўсё добра. Госць прыехаў – і мы яго не ў хлеў завялі.

Так, у краіне ёсць і бедныя людзі, але ўрадавыя рэзідэнцыі – гэта не шыкаванне. Павінна быць катэгорыя людзей, якім па іх статусе дазволена карыстацца такімі рэзідэнцыямі. Праўда, усё гэта павінна перадавацца нашчадкам. Новыя людзі, якія будуць кіраваць краінай, будуць таксама карыстацца гэтымі рэзідэнцыямі.

**Тацццяна ПРОЦЬКА, гісторык, кандыдат філасофскіх навук:**



– Маё меркаванне такое: сёння абмяркоўваць урадавыя рэзідэнцыі заўчасна. Гэта выглядае так, як быццам дзеляць шкуру незабітага мядзведзя.

А тое, што такія ўрадавыя рэзідэнцыі ў краіне маюцца, гэта ж ні для кога не сакрэт. Яны ў Беларусі былі, ёсць і застануцца. І калі ўлада ў краіне зменіцца, вось тады ім можна будзе знайсці вельмі добрае прымяненне.

Адным словам, тое, што пабудавана, у адзін дзень не знікне.

**Мікалай ЛЫСЕНКАЎ, экс-кіраўнік СПК «Жоўты бераг» (Стаўбцоўскі раён):**



– Толькі адна ўрадавая рэзідэнцыя павінна быць. Там кіраўнік краіны павінен і жыць, і працаваць. Можа быць, і ўрад варта вывезці за межы горада.

А лішнім рэзідэнцыям лёгка можна знайсці добрае прымяненне – аддаць пад санаторыі, бальніцы, магчыма, нешта перавесці ў камерцыйную частку. Памяшканні не павінны стаяць пустыя і чакаць, калі туды раз у некалькі месяцаў прыедзе высокі госць. Яны штодзень павінны быць карыснымі і працаваць для краіны і людзей. А асабліва дарагую рэзідэнцыю можна і прадаць, а за гэтыя грошы пабудаваць пяць невялікіх бальніц для дзетак.

**Вячаслаў ОРГІШ, доктар філасофскіх навук, прафесар:**



– Я не глядзеў фільм і, шчыра кажучы, нават не ведаю, колькі ў Беларусі сёння ўрадавых рэзідэнцый. Гэтая тэма – не мая кампетэнцыя.

**Ганна КАНЮС, доктар палітычных навук:**



– На мой погляд, хапіла б адной альбо дзвюх урадавых рэзідэнцый, каб працаваць там і прымаць ганаровых гасцей.

Што ў такім выпадку можна было б зрабіць з астатнімі рэзідэнцыямі? Гэта добрыя месцы, каб аддаць іх пад дзіцячыя прытулкі, для жанчын, якія пацярпелі ад гвалту ў сям'і, для "чарнобыльцаў" альбо для тых, хто пацярпеў ад рэпрэсій пасля выбараў мінулага года.

Можна было б зрабіць цудоўныя сацыяльныя аб'екты. На пабудову рэзідэнцый пайшлі вялізныя бюджэтныя грошы, але столькі такіх аб'ектаў нам не патрэбна. Трэба ж нерухомасць выкарыстоўваць з максімальным прыбыткам.

**Алег ГАЙДУКЕВІЧ, дэпутат Палаты прадстаўнікоў:**



– Мяне наогул не цікавіць, колькі ў Беларусі ўрадавых рэзідэнцый, бо яны ўсе дзяржаўныя. Пяць, дзесяць, пятнаццаць... Якая розніца? Там не можа кіраўнік краіны жыць, яны выкарыстоўваюцца для нейкіх міжнародных сустрэч, яшчэ для нечага.

Мяне цікавіць, як краіна развіваецца, а не тое, колькі ў ёй рэзідэнцый. І фільм Пуціцы мяне зусім не ўразіў. Нічога я там сенсацыйнага не ўбачыў. Гэтак жа, як і ў фільме Аляксея Навальнага пра Уладзіміра Пуціна. Яны што, хочуць, каб прэзідэнт Расіі ў лапцях хадзіў, як абадранец? Пакажыце мне такога прэзідэнта! Усе прэзідэнты ў свеце – мільянеры. А хто кажа, што ён не мільянер, той прыкідваецца.

У нашага кіраўніка краіны насамрэч усё дзяржаўнае. Дзе ў яго асабістыя рэзідэнцыі? Паказалі тыя, якія належаць дзяржаве. Рана ці позна, але ўлада змяняецца, а рэзідэнцыі застануцца.

Таму я не бачу тут аніякай праблемы, якая хвалюе людзей. Ды, мяркую, і не хвалюе яна іх наогул. Народ хвалююць заробкі, пенсіі і тое, як ён будзе жыць далей.

**Анатоль ЛЯЎКОВІЧ, дацэнт, экс-кіраўнік Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада):**



– Дзяржава павінна мець рэзідэнцыі, але тут павінна быць пачуццё меры. Каб быць сціплым, дастаткова і двух-трох рэзідэнцый. Што, у Беларусь высокія госці штодзень прыязджаюць, чарга стаіць і немагчыма ўсіх пасяліць у дзвюх рэзідэнцыях? Не, няма такога. Дык навошта, каб у гэтых памяшканнях паветра гуляла? Лепш аддаць іх тым, каму яны насамрэч патрэбны. Тым жа хворым дзецям.

**Зоя ІВАНОВА, пенсіянерка (г.Смалявічы):**



– Беларусь – не такая вялікая краіна, каб будаваць тут шмат урадавых рэзідэнцый. Дастаткова было б і адной, ну максімум дзвюх.

А астатнія рэзідэнцыі спатрэбіліся б у сацыяльнай сферы, дзе праблем у нас хапае. Варта было б аддаць іх пад санаторыі і прафілакторыі. Гэта асабліва актуальна зараз, калі людзі масава хварэюць на каранавірус, і пасля хваробы ім патрэбна рэабілітацыя. Дык дайце людзям магчымасць прывесці ў парадак здароўе ў нармальных чалавечых умовах!

**Алена ЗОЛАВА, салістка Вялікага тэатра:**



– Думаю, для нашай дзесяцімільённай краіны дастаткова дзве-тры ўрадавыя рэзідэнцыі. «Лішнія» рэзідэнцыі зараз варта было б аддаць пад дзіцячыя дамы сямейнага тыпу. А таксама пад санаторыі – пажадана з мінімальнай аплатай.

**Аляксандр САЛАДУХА, спявак:**



– У нас іх тры – і гэтага цалкам дастаткова! У прэзідэнта Лукашэнкі, у Дзеда Мароза ў Белавежскай пушчы і ў Аляксандра Саладухі на Пціч. А пра астатнія рэзідэнцыі першы раз чую!

**Раіса БАРАВІКОВА, пісьменніца і паэтка:**

– Не ведаю... Мне здаецца, і адной дастаткова. Вось у мяне



адна дача, і добра. А лішнія рэзідэнцыі трэба аддаць пад дзіцячыя дамы – як калісьці забіралі лішнюю ўласнасць у памешчыкаў, калі ўсталёўвалі Савецкую ўладу.

**Аляксей ДУДАРАЎ, драматург:**



– Мяне гэта не хвалюе – 5, 15 або 27... Можа, патрэбны ўсе 27. Каму цікава, хай лічыць.

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ, экс-старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі:**



– Шчыра кажучы, дакладна не ведаю, колькі на сёння ў Беларусі ўрадавых рэзідэнцый і як яны выкарыстоўваюцца. Але, на мой погляд, дзве-тры нам патрэбны, а больш – ужо залішняе. Таму што не зусім зразумела, што ў іх рабіць. Гэта марнатраўства!

І не праблема знайсці прымяненне астатнім рэзідэнцыям. Гэта былі б цудоўныя гатэлі, прывабныя для турыстаў. Такой праблемы наогул не было б. Увогуле, калі рэзідэнцыі пабудаваны на народныя грошы, то трэба іх гэтаму народу і аддаць.

Апытвалі Алесь СІВЫ, Алена МАЛОЧКА.

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

## Хочаце купіць чарэшню па 220 рублёў за кілаграм? Калі ласка...

*У суботу раніцай з'ездзіла на сталічны Камароўскі рынак і паглядзела, колькі каштуюць толькі што прывезеныя з замаркіх краін гародніна і садавіна. Ля некаторых прылаўкаў можна не спыняцца – не для беларускай кішэні, напрыклад, свежая чарэшня па 220 рублёў за кіло...*

Сезон хурмы ўжо адыходзіць, а вось чарэшня і клубніцы пачынаюць набіраць абароты. Разбежка па цэнах уражальная: клубніцы – ад 14 да 32 рублёў за кілаграм, чарэшня – ад 209 да 220.

Ад прадаўцоў ледзь не на кожным кроку чую: "Ну купіце, купіце..." А я ў адказ: "Дорага!" Раз-пораз завязваецца дыялог.

– Чаго прыйшлі і толькі глядзіце? – пытаецца адна з жанчын.

– З такімі цэнамі толькі глядзець застаецца...

– Дык жывём жа не ў казцы...

– А з чым, скажыце, звязаны рост цэн?

– Я ж не міністр, не ведаю, – адказвае гандлярка. – Мая справа – прадаваць.

– А вось чула, што ў вас тут чарэшня ёсць па 220 рублёў...

– Так, была недзе. З Чылі прывезлі...

Цікаўлюся: ці можна купіць танней? Дастаю смартфон, заходжу на сайт Камароўскага рынку і даведваюся: чарэшня з Перу каштуе 209 рублёў за кілаграм.




*"Тонкая і гладкая скурка пакрывае далікатную і сакавітую мякаць,* – гаворыцца ў апісанні тавару на сайце. – *Чарэшня ўтрымлівае досыць шмат жалеза, а значыць, ягады з'яўляюцца ідэальным сродкам пры малакрові. Плады выкарыстоўваюцца ў якасці стымулюючага, танізуючага і агульнаўмацавальнага сродку. Даказана, што чарэшня дапамагае ачысціць арганізм ад "дрэннага" халестэрыну і ад прадуктаў распаду".*

Нягледзячы на такую прывабную рэкламу, усё ж не магу аддаць 220 рублёў за нейкі кілаграм смачных ягад.

Спрабую знайсці садавіну па больш прымальнай цане. Вось бачу вінаград, каштуе ад 10 да 14 рублёў. Праўда, адразу ўзгадала: на акцыі ў супермаркеце вінаград прадаваўся па 8,50 за кілаграм.

Звяртаю ўвагу на свежы ананас – сярэдні кошт 12 рублёў.

– Бярыце! Вельмі смачны! – крычыць мне прадавец.

– А калі танней будзе? – цікаўлюся.

Маё пытанне застаецца без адказу.

Раптам заўважаю чаргу, падыходжу.

– За чым стаіце? – цікаўлюся.

– Хурма па рублю!

– Яна ж гнілая...

– Калі вам гнілая, то ідзіце і бярыце за пяць рублёў, – адказвае мне прадавец.

А вось і перцы – каля 10 рублёў за кілаграм. Агуркі – па 7, памідоры – ад 5 да 30 рублёў!

Зноў цікаўлюся, з чым звязаны рост цэн.

– Я на такія пытанні не адказваю. Трэба – бярыце! Не трэба – ідзіце!

Дзякую за каментарый, а ў спіну мне прылятае памідор. Што ж, і такое бывае...

Вырашаю зайсці ў малочны аддзел – раптам там напаткаю якога гаваркога пакупніка. І такі знайшоўся – **Андрэй Старжынскі**, юрыст адной з прыватных кампаній.

**– Ці заўважылі вы скачок цэн?**

*– Заўважыў, але гэта тычыцца толькі асобных тавараў. Так, алей з восені падаражэў з 2,80 да 3,20. Мабыць, з прычыны неўраджаю сланечніка. Курыная грудка без скуры – з 5,75 да 5,90 рубля. Пасля Новага года мука слуцкая – з 1,80 да 2 рублёў. А вось на бананы цэны ўпалі ўжо да 2,50 за кілаграм. Завезлі, напэўна, вялікую партыю.*

**– Чаму купляеце прадукты на Камароўцы, а не ў супермаркеце?**

*– У краме і даражэй, і выбару няма...*

**– А наогул, ці чулі вы пра заклікі байкатаваць прадукцыю тых кампаній, якія знаходзяцца ў цеснай сувязі з уладамі?**

*– Ведама ж, чуў, але лічу гэта глупствам.*

**– А санкцыі, якія ўводзяцца супраць Беларусі, эфектыўныя?**

*– Яны не могуць быць эфектыўнымі, паколькі гэта штурхане Беларусь да Расіі.*

Каб не паглыбляцца ў палітыку, вяртаюся да таго, што мяне больш за ўсё ўразіла тут, на Камароўскім рынку.

**– А вы чарэшню бачылі па 220 рублёў?**

*– Не бачыў і не шукаю...*

Так, ахвочых набыць дарагую ягаду няшмат. Не дазваляюць беларусам раскашавацца іх мізэрныя даходы. Паводле афіцыйных дадзеных Белстата, намінальная сярэдняя зарплата ў беларускай сталіцы за студзень склала 1849 рублёў, а гэта нават не вялікае вядро чарэшні.

**Фіра РАЗУМОЎСКАЯ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info 12 САКАВІКА 2021 г.

SOS!

# «Відаць, падохну ў калоніі»

*Палітвязень Ігар Лосік напісаў сумны ліст з СІЗА*



«Ілюзій не маю, думаю, будзе гадоў пяць, і там я і падохну. Няма ніякага ўжо жадання нічога рабіць, столькі ўсяго было зроблена, і ўсё марна, нічога ні на кога не ўплывае. Скажу шчыра, наўрад ці нешта зменіцца.

Усе сядуць, астатнія з'едуць або заціхарацца, Расія дапаможа з грашыма, і так на некалькі гадоў. Таму я вось думаю да гэтага проста неяк падрыхтавацца, таму што я стаміўся чакаць і спадзявацца на добрае, а ў адказ кожны тыдзень на працягу ўжо васьмі месяцаў толькі горш і горш.

І калі здаецца, што горш быць не можа, становіцца яшчэ горш, а ты ніяк на гэта не можаш паўплываць. Сумнавата, але так і будзе. Пакуль не бачу прычын іншых.

І не хачу, каб Даша на судзе бачыла і чула прысуд такі. Лепш бы проста расстралялі па-хуткаму, і не бачыць гэта ўсё».

*Гэта, як кажуць, сігнал «SOS!». Шаноўныя чытачы «Народнай Волі»! Разам падтрымаем Ігара. Будзем спадзявацца, што нашы лісты нададуць яму сілы вытрымаць усе выпрабаванні. Пішыце, вось адрас:*

***Следчая турма №8***
***222163 г.Жодзіна, вул.Савецкая, 22А***
***Ігар Аляксандравіч Лосік.***

У НУМАР!

# У Дзмітрыя Рабцэвіча – новая кампанія



Стала вядома аб тым, што PandaDoc ліквідуе юрыдычную асобу ў Беларусі. Як удалося высветліць *dev.by*, дырэктар мінскага офіса PandaDoc яшчэ ў кастрычніку зарэгістраваў новую IT-кампанію.

Дырэктар мінскага офіса PandaDoc **Дзмітрый Рабцэвіч** быў затрыманы 2 верасня мінулага года разам з трыма іншымі супрацоўнікамі кампаніі. Спачатку ім было прад'яўлена абвінавачанне ў крадзяжы 107 тысяч рублёў з бюджэту. Пазней іх абвінавацілі ў махлярстве – работнікам PandaDoc пагражала ад 3 да 10 гадоў турмы. Менеджар па прадукце **Віктар Куўшынаў** да гэтага часу застаецца пад вартай.

11 кастрычніка пасля вядомай сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам у СІЗА КДБ Рабцэвіча перавялі, як тады паведамлялася, пад хатні арышт.

Адразу пасля выхаду з СІЗА Рабцэвіч даў інтэрв'ю БТ, у якім падзяліўся планамі аб стварэнні IT-кампаніі: *«Ёсць ідэя пабудаваць кампанію ў ПВТ з дапамогай калег, сяброў і працаваць у гэтай юрысдыкцыі. На дадзены момант там створаны ўсе ўмовы, каб плаціць нармальныя заробкі, развівацца, будаваць будучыню разам»*.

Як удалося высветліць *dev.by*, Рабцэвіч зарэгістраваў новую кампанію 23 кастрычніка. Называецца яна **«ПЦІ Салюшнс»**.

Паводле выпіскі з АДР, ТАА «ПЦІ Салюшнс» займаецца *«дзейнасцю ў галіне камп'ютарнага праграмавання»*. Статутны фонд – 1000 рублёў. Уласнік і кіраўнік – Дзмітрый Рабцэвіч. Юрыдычны адрас «ПЦІ Салюшнс» супадае з юрыдычным адрасам «PandaDoc-Мінск»: вул.Кірава, д.8, памяшканне 7.

«ПЦІ Салюшнс» ёсць ў базе кампаній, якія ўваходзяць у ПВТ.

Адкрытых вакансій у новай кампаніі Рабцэвіча знайсці не ўдалося.

*Dev.by* звязаўся з Дзмітрыем Рабцэвічам і папрасіў расказаць пра новую кампанію. Ён сказаў, што пакуль не каментуе, але, магчыма, зможа даць каментарый на працягу аднаго-двух тыдняў.

ПРЫЗНАЧЭННЕ

# Новым міністрам па надзвычайных сітуацыях стаў экс-кіраўнік гродзенскай міліцыі



Новым міністрам па надзвычайных сітуацыях стаў былы кіраўнік міліцыі Гродзенскага аблвыканкама **Вадзім Сіняўскі**.

Уладзімір Вашчанка, які кіраваў МНС з 2010 года, пакідае пасаду.

СУМНАЯ ВЕСТКА

# Ціханоўскаму прад'явілі канчатковае абвінавачанне, яму пагражаюць 15 гадоў турмы

*Папулярнаму блогеру, палітвязню **Сяргею Ціханоўскаму** паводле чатырох артыкулаў Крымінальнага кодэкса пагражае пакаранне да 15 гадоў зняволення.*

Следчы камітэт скончыў расследаванне крымінальнай справы супраць блогера Сяргея Ціханоўскага, палітыка Мікалая Статкевіча і іх паплечнікаў.

Сяргею Ціханоўскаму прад'яўлена канчатковае абвінавачанне паводле некалькіх артыкулаў Крымінальнага кодэкса:

– ч.1 арт.293 (арганізацыя масавых беспарадкаў);

– ч.3 арт.130 (распальванне сацыяльнай варожасці);

– ч.2 арт.191 (перашкода працы ЦВК);

– ч.1 арт.342 (арганізацыя дзеянняў, што груба парушаюць грамадскі парадак).

Санкцыя найбольш цяжкога артыкула ў гэтым пераліку прадугледжвае пазбаўленне волі тэрмінам да 15 гадоў.

Вядома ж, што нават калі цяперашні суд і вынесе такі вердыкт, то гэта не значыць, што С.Ціханоўскі такі тэрмін праўдзе за кратамі. Адбудуцца ў краіне палітычныя змены – і палітвязні выйдуць на свабоду.

СПЕЦКОМАНДИРОВКА

# Перезвонит ли журналисту майор милиции Дмитрий Гринь?

Конечно, надо мной можно смеяться, но я побаивалась идти в РОВД Новогрудка. Кого сейчас оберегает журналистское удостоверение? И вообще, за последние полгода у многих моих соотечественников, думаю, сложилось стойкое убеждение: люди в форме – это опасность. В Минске, например, я живу напротив милиции Советского района, так практически всю зиму по воскресеньям наблюдала, как вокруг здания РУВД ходил патруль с автоматами наперевес. Это нормально? Я на базар – они с автоматами навстречу. Я из химчистки – опять двое в черном с оружием на дороге стоят, прямо не разминуться. Я не выдержала и однажды спросила: «У нас что, уже военное положение?» «Пока нет», – промычали мне в ответ. Ну так какого лешего вы мне автоматы свои показываете?

Так что честно говорю: собиралась в Новогрудок (на этом настоял главный редактор) и на всякий случай взяла сменное белье. Вернусь ли к вечеру?.. Теперь ведь и за неугодный вопрос к представителю силовых структур можно загреметь в изолятор. Вот на Жанну Бобровскую в Новогрудском РОВД составили протокол вообще только за то, что она побывала на воскресной исторической экскурсии. Ее личная история опубликована в №17 «Народной Воли» за 5 марта. А теперь в Новогрудок я поехала, чтобы встретиться и поговорить с теми официальными лицами, кто так «украсил» Бобровской, коренной новогрудчанке, жизнь, а именно с майором **Дмитрием Сергеевичем Гринем** и судьей **Екатериной Федоровной Тарас**.

Вышла из маршрутного такси в яркий полдень, огляделась на площади Ленина и поняла, что не совсем точно знаю, в какой стороне суд, в какой – милиция. Конечно, в древней столице Великого Княжества Литовского бывала не раз, но больше ходила по музеям и знакомилась с архитектурным наследием. Обратилась за помощью в навигации к прохожему. С первых же слов он признался, что тоже из «сидельцев». «Пятнадцать суток!» – почти торжественно произнес молодой человек и помахал рукой в направлении суда. Жаль, я не узнала его фамилию, но согласитесь: если первый встречный в городе – и тот побывал в изоляторе, то поневоле растеряешься, онемеешь.

В общем, пришла в суд, РОВД оставила себе «на закуску». В маленьком фойе было пусто, солнечно, тихо и чисто. Дежурный милиционер записал мои паспортные данные и сразу же позвонил судье Е.Ф.Тарас. Буквально через минуту от нее пришла секретарь (подумалось: хм, как всё оперативно, толково). Впрочем, на этом мое журналистское везение и закончилось, мне тут же сообщили, что прием граждан судьями Новогрудского района не проводится и что Екатерину Федоровну я не увижу ни под каким предлогом. Разве только в зале суда. Но зато могу встретиться со специалистом по связям с общественностью Ксенией Иосифовной Фурсой. Конечно, я не отказалась и от такого общения.

Первое, что услышала в кабинете уважаемого специалиста, что времени у нее на меня очень мало. И повторяла это Ксения Иосифовна с едва ли не через минуту многого раз – наверное, чтобы я не возомнила о себе лишнего. Я согласилась, что работа у нее непростая. На что Ксения Иосифовна ответила прямо-таки афоризмом: «Любая работа трудная, если ее делать… трудно». Мне понравилось. Конечно, трудно наказывать людей сутками, когда нет серьезной доказательной базы, – я, конечно, о Жанне Бобровской. Человека, переболевшего пневмонией, ковидом, запереть в изолятор на десять суток за участие в экскурсии, которая показалась (именно что показалась, потому что фактов нет!) милиции неправомерной?!

– Никаких комментариев и пояснений, кроме изложенных в постановлении по административному делу, судьями для СМИ не дается. Если гражданин не согласен с решением суда, у него есть процессуальное право на обжалование в вышестоящие инстанции. И, насколько я знаю, этим правом воспользовались… – сказала, как отрезала, К.И.Фурса.

Действительно, Жанна Бобровская обращалась уже в областной суд, подавала апелляцию. Естественно, безрезультатно. Это ж статья 23.34!

Тем временем Ксения Иосифовна продолжала:

– А прийти журналисту в суд и сказать: «Здравствуйте, я хотела бы поговорить» – у нас таких специалистов, которые будут пояснять представителям СМИ постановления суда, нет. Другое дело, если бы вы захотели поучаствовать в судебном заседании, то обратились бы ко мне заранее, и я могла бы обеспечить ваше присутствие в сэээ, – Ксения Иосифовна незаметно перешла на привычный профессиональный судейский жаргон. – Если, конечно, оно открытое. Но процесс, которым вы интересуетесь, уже прошел… Так что никаких интервью и комментариев. Ни-че-го.

С этим твердым «ни-че-го» я вышла на крыльцо районного суда. Хотелось глубоко вдохнуть, но рядом стояла большая группа курящих граждан цыганской внешности. Чтобы пройти, пришлось нырнуть в окутывающие их клубы дыма, и тут же услышала в спину: «Не дадите на хлебушек?..»

Странно, а почему не предложили сначала погадать? Вот пусть бы угадали мое заветное желание, тогда можно и на хлебушек…

В фойе Новогрудского РОВД было тоже тихо и чисто – это прямо наша национальная черта. У стены сидели милиционеры, которые оживленно что-то обсуждали. Но без нервов, по-деловому. На меня, посетителя, ноль эмоций. Поэтому я как-то внутренне успокоилась и громко представилась дежурному: «Журналист «Народной Воли» такая-то». Никакого эффекта, агрессии, косых взглядов. Кстати, Новогрудок, как мне рассказывали, летом и осенью не отличился, как наша столица, грубым насилием. Да, задерживали, судили, но все-таки не били, не унижали, как в Минске. Местные служивые люди, слава Богу, не переступили эту черту… Через несколько минут дежурный передал мне телефонную трубку, и я стала разговаривать с майором Дмитрием Сергеевичем Гринем, который составлял протокол на Ж.Г.Бобровскую за воскресную экскурсию. Мне хотелось с ним встретиться, чтобы спросить неформально: а душа у него не болит? Да, служебные обязанности, приказы, но есть же еще человечность, сострадание, сочувствие. Почему из всей экскурсии, оформленной по всем правилам, выхватили Жанну Бобровскую – и под протокол? Чтобы остальных напугать? Да, Бобровская – человек со своей гражданской позицией, но это же не преступление. Неужели приятно бессмысленно наказывать людей? Неужели именно это называется профессионализмом и ответственностью?

Дмитрий Сергеевич принять меня не смог, так как уходил на селекторное совещание. Уважительная причина. «А когда сможете?» «А я вам перезвоню, – вдруг пообещал майор. – Но, конечно, не сегодня. И, конечно, еще с начальством посоветуюсь».

Так что, можно сказать, я вернулась в Минск обнадеженная. Но сколько ждать? Не хотелось бы затягивать процесс общения. Причем с начальством, с официальными лицами на всех уровнях. Ведь народное недовольство, общественное противостояние продолжается, хотя конфликт грубой силой и загнан сейчас под ковер. Но сам собой он не рассосется! Надо говорить и договариваться. Надо слушать, обсуждать и дискутировать, а не плетью «сейчас не до законов» махать. Сегодняшняя тишина, знаете ли, обманчива… Очень обманчива.

**Елена МОЛОЧКО.**

*Новогрудок – Минск.*

СТАЛА ВЯДОМА...

# Другі энергаблок Беларускай АЭС збіраюцца запусціць да канца года

*Энергетычны пуск другога блока БелАЭС запланаваны на чацвёрты квартал 2021 года, расказаў дырэктар інжынірынгавага дывізіёна дзяржкарпарацыі «Росатом» АЭС **Аляксей Кананенка**.*

Паводле яго слоў, пачалася загрузка імітатараў цеплавыдзяляльных зборак у корпус рэактара.

*«Сёлета мы плануем фізічны пуск, гэта значыць пачаць загрузку свежага ядзернага паліва ў рэактар. Пасля гэтага другі рэактар будзе выведзены на мінімальна кантраляваны ўзровень (1% ад намінальнай магутнасці) з правядзеннем адпаведных даследаванняў, якія пацвярджаюць надзейнасць і бяспеку працы на праектных параметрах. Пачнецца этап энергетычнага пуску, падчас якога блок будзе ўключаны ў энергетычную сетку Беларусі»*, – паведаміў Аляксей Кананенка *TUT.BY*.

ПОЗИЦИЯ

# Елена ГИРЕНОК: «Трудно играть комедию, когда калечат людей, ломают судьбы...»

*Многие белорусы до прошлого года считали себя достаточно аполитичными. Но выборы, беспрецедентное по своей жестокости и масштабам насилие сразу после них, наступивший правовой дефолт, массовые репрессии – всё это не оставило выбора для адекватных, неравнодушных, имеющих совесть граждан. Все они так или иначе приобщились к происходящему. Среди них оказалась актриса Театра-студии киноактера **Елена Гиренок.** О знаковой в творческой биографии роли жены Янки Купалы, о двух задержаниях, о том, почему талантливая актриса, мама 11-летней девочки, хрупкая женщина считает необходимым заявить о своей позиции, мы и говорили с Еленой Гиренок.*



## «Купала» – фильм с душой

**– В фильме «Купала» (премьеры которого, к сожалению, мы так и не дождались) вы исполнили роль жены национального поэта – Владиславы Францевны. Многие белорусы очень мало знают об этой женщине. Какой ее увидели и постарались сыграть вы?**

– Владислава Францевна, на мой взгляд, из числа женщин, которые как личность растворяются в своих выдающихся мужьях, полностью посвящают свою жизнь служению им. Музей великого поэта она начала создавать сразу после его смерти: без него ее жизнь теряла смысл. Наверное, именно такие спутницы и должны быть рядом с гениями. Готовясь к своей роли, ходила в Государственный литературный музей Я.Купалы, разговаривала с его сотрудниками, и они с восхищением рассказывали о Владиславе Францевне, ее самоотверженности, культуре, доброжелательности, а еще искренне огорчались, вспоминая один спектакль, где ее образ получился крайне непривлекательным.

**– Вам легко работалось с Николаем Шестаком, сыгравшим Купалу?**

– Легко. Николай, безусловно, очень подошел на роль, внутренне совпал с нею. Восхищаюсь своим коллегой с профессиональной точки зрения. Он родился в Латвии, учился в Ярославле и не говорил по-белорусски. В начале съемок речь шла о том, что Купалу переозвучит другой актер. Но к их окончанию Николай настолько овладел языком, что сумел справиться сам.

**– В ноябре 2020-го на втором Международном фестивале кино стран СНГ «Московская премьера» «Купала» получил приз «Событие кинематографического года». Для вас фильм стал событием?**

– Да. Было интересно работать, и результат мне понравился. Режиссер Владимир Янковский подчеркивал, что снимает фильм об истории поэта в жестких условиях режима, о человеке, который в крайне сложные времена пытается не изменять своему дару. Во многом картина удалась благодаря самоотверженности всей съемочной группы. Человеческий фактор сыграл грандиозную роль. Все выкладывались, не считаясь с личным временем. Костюмеры, гримеры творили чудеса, иногда даже ночевали на студии. Обидно, что такой труд государство не оценило по достоинству. Многим не понятно, почему на «Оскар» отправили «Уроки фарси», а не «Купалу».

## «С ужасом думаю, что зал могут выкупить омоновцы»

**– Минчане любят и знают вас по спектаклям в Театре-студии киноактера. Как вам работается сегодня?**

– Нелегко. Постоянно задаю себе вопрос: кому нужно сейчас наше творчество? Как можно играть комедию в то время, когда людей калечат, ломают судьбы? Мне кажется, так обесценивается профессия актера. На мой взгляд, театр должен отражать боль, правду, разговаривать со зрителем о том, что сегодня переживают сограждане, а не делать вид, что у нас все по-прежнему.

**– Елена, но сегодня концентрация боли столь высока, что люди ищут отдушину. Мы и так с августа 2020-го живем в состоянии постоянного стресса. Многие ощущают безысходность. А надо ведь откуда-то брать силы, чтобы жить, надеяться, верить. И театр может хоть немного «утереть слезы».**

– Понимаю: людям нужно отдыхать, восстанавливаться, нужны источники позитива. И я работала бы для неравнодушных зрителей, имеющих такой запрос. Мне не хочется играть для тех, кто приходит в театр просто похихикать, кто живет так, будто ничего страшного не происходит. С ужасом думаю: а что, если вдруг зал выкупят омоновцы. Придется перед ними играть комедию? Веселить их? Мне очень понятна позиция купаловцев, покинувших сцену. Считаю, они совершили настоящий Поступок. Трудно служить искусству, когда «в стране не до законов», когда нарушены все нормы – правовые и человеческие. Сегодня охотнее откликаюсь на предложения участвовать в творческих проектах, которые выражают протест против лжи, насилия, судебного произвола.

**– Ваша гражданская позиция создает сложности в театре?**

– В театре – нет. Но проблемы с работой есть. Ушла из «ТриТформаТа», несмотря на долгие творческие, дружеские отношения с многими коллегами. В тот день, когда убили Романа Бондаренко, я пережила мощный внутренний диссонанс. Мы репетировали "Три сестры", и все делали вид, что у нас только одна проблема – спектакль. Очень дорогой для меня проект «Диафильм live» сейчас приостановлен: наш музыкант Андрей Евдокимов вынужденно покинул страну.

**– Наверняка меньшая творческая занятость отражается на финансовом положении семьи.**

– Отражается. В нашем социально ориентированном государстве при зарплате в театре 500 рублей около 400 рублей в месяц плачу за арендное жилье. Экономические трудности осложняют жизнь, но не они вызывают мой самый мощный протест, а то, что власть перешла все границы, все красные линии. Нам откровенно лгут, нарушают базовые права, избивают и уже убивают оппонентов. Не хочется жить в концлагере, невозможно смотреть, как растаптывается всё лучшее в людях.

## Уроки насилия

**– Вас дважды задерживали. При каких обстоятельствах это произошло?**

– Первый раз – 26 сентября. Продержали ночь в РУВД и выпустили, поскольку у меня несовершеннолетняя дочь. Второй раз – в конце ноября, в воскресенье: шла в торговый центр, на рюкзаке был значок «Погоня». Остановили и провели в бус. Очевидно, просто требовалось кого-то захватить, подвернулась я. После двух суток на Окрестина выпустили, но пришлось выплатить штраф.

**– Вы знаете, когда прочла о том, что вас били, была в ярости: вырвать бы той дряни руки! До какой же степени одичания должен дойти мужчина, чья профессия – защищать мирное население, чтобы поднять руку на хрупкую молодую женщину?!**

– При первом задержании я довольно дерзко и нетерпимо выражала свой протест против действий омоновцев. Заводят в бус, на полу вижу мужчину, который задыхается, просит, чтобы разрешили встать. А мне велят двигаться вперед, ступать по нему. Конечно, это взбесило! «Не пойду, – говорю, – и никуда не поеду, пока его не поднимете». «Тут я буду диктовать, что делать», – следует реакция. Омоновец бьет меня по голове, лицу, а потом заламывает руки. Разозлилась, пыталась читать лекцию по истории, вразумлять, взывать к совести. А потом почувствовала, как становится тяжело дышать, немеют руки, пальцы. Реально почувствовала страх. Поняла, что полностью завишу от тупой силы. Когда протест выразила другая девушка, ей в лицо тоже полетел кулак. Тише всего в автозаке сидели мужчины, и их молчание только усиливало ощущение страха. Сейчас временами накатывает такой приступ паники, просто до тошноты. Не уверена, смогу ли с таким опытом повторно встать на защиту другого человека.

**– И эти насильники – ваши ровесники, а то и младше. Лично для меня остается непостижимым, откуда столько зверья.**

– Думаю, им основательно промывают мозги. В бусе омоновцы называли всех выходящих на улицу предателями родины! Еще их, конечно, стимулируют зарплатами. По большому счету они ничего не умеют, кроме как махать палками, не знают, как жить иначе. Есть среди них, уверена, и откровенные садисты. Я долго верила, что милиция и армия могут быть с народом, но сейчас верить в это становится всё труднее.

**– Чем запомнилось пребывание на Окрестина? Какие ощущения остались?**

– Двое суток, конечно, можно выдержать. Хотя и такое краткое лишение свободы оказалось хуже, чем представляла. Те, кто сидит на больших сроках и умудряется не сломаться, а еще и пишут ободряющие письма на волю, – настоящие герои! При втором задержании вместе со мной в автозаке оказалась только одна уголовница со стажем: ее схватили у магазина с батоном в руках. Этот батон мы все вместе с большим аппетитом съели в Первомайском РУВД. Остальные девушки и женщины – бухгалтер, айтишницы, специалист по логистике, врач. Одна из них никак не могла понять: "У меня три высших образования. Я никогда не привлекалась. За что тут сижу? Почему ко мне отношение хуже, чем к уголовнику?" Такую реальность отказываешься принимать. За что нас – социально благополучных, ничего противоправного не совершивших граждан – сажать в тюрьму и еще подвергать унижениям, судить?

**– Как отреагировали родные на вашу позицию и задержания?**

– Муж поддерживает, разделяет мои взгляды. Родители тоже уважают мой выбор. Дочь плакала, когда узнала, что маму забрала милиция. Но Саша и наши друзья постарались ее успокоить, отвлечь. Эмоциональнее всех отнеслись к моей включенности в происходящее родственники старшего поколения из маленьких городов. В пожилых людях страх особенно глубок.

## «Опору нахожу в людях»

**– Как вы относитесь к сторонникам власти? Какие люди вас сегодня возмущают?**

– Иногда ловлю себя на откровенной нетерпимости к ябатькам, хоть и стараюсь бороться с этим. Возмущают меня и равнодушные, которые живут, отгородившись от чужой боли стеной, а еще те, кто против власти, но предпочитает пересидеть, отмолчаться, считая: пусть борются другие.

**– Лично для меня за период после августа 2020 года стало открытием, как велик в нашем обществе пласт людей, для которых профессиональная клятва, слова честь, достоинство, справедливость – пустой звук. Имею в виду и армию, и милицию, и судей, которые отправляют за решетку невиновных, и руководителей, увольняющих работников, посмевших высказать свое мнение. Становятся понятны масштабы и степень деформации многих сограждан. Система преуспела в формировании бесхребетного, подобострастного, готового выполнить любой приказ человека.**

– Думаю, те, кто сегодня при высоких должностях, – люди отобранные. Они упорно годами шли к своему благополучию, подстраиваясь под систему. Они готовы найти оправдание любой лжи, цинизму и жестокости, чтобы только сохранить завоеванное место. Думаю, если у них и была совесть, они ее давно уже усыпили.

**– Когда после августовского беспредела я услышала слова Владимира Макея, что за слезы своего 11-летнего сына (из-за нанесенной ему словесной обиды) он готов «горло перегрызть», то просто онемела. Так хотелось ответить: «Не сомневаюсь. За слезы своего – перегрызете. А до чужих сыновей вам, товарищ Макей, дела нет: пусть избивают, калечат, убивают?»**

– Тех, кто верит этой власти, становится всё меньше. Часто думаю: ведь стоило ей не лгать, пойти на диалог с обществом, не затыкать рот людям с альтернативным мнением, и всё было бы иначе. Инициативные, свободные, талантливые белорусы сделали бы свою страну процветающей. Но власть ничего конструктивного предложить не может, она сделала ставку на насилие, запугивание, страх и идиотскую пропаганду в стиле несмышленого Григория Азарёнка.

**– Многие сегодня переживают период растерянности, усталости, опустошенности. Стало понятно: мирными протестами диктатуру не свергнешь.**

– Боюсь Великой депрессии. Она может возникнуть из-за того, что люди вложили огромные силы, физические, эмоциональные, духовные, чтобы поменять страну к лучшему, а всё рискует закончиться тем, что о них вытрут ноги. Понимаю тех, кто покидает страну. У каждого есть некий рубикон, до которого он готов бороться, а после которого – уже нет.

**– В чем вы сегодня находите для себя опору?**

– Только в людях. Меня окружают единомышленники. Когда возвращалась после задержаний, во дворе меня встречали и окружали теплотой, поддержкой, и сразу становилось легче. Восхищают волонтеры. Помню, разговорилась с одним из них, молодым парнем Ваней, и он признался: такого навидался начиная с августа, что приходит домой и плачет – просто не может этого выдержать. Плачет, а наутро встает и продолжает помогать! Это настоящий мужчина. Считаю, что в жизни стоит дорожить не властью и деньгами, а человеческой солидарностью, добротой, любовью. В них наша сила.

**Беседовала Илона ВОСКРЕСЕНСКАЯ.**

ПАНДЕМИЯ

## Прилетел из туманного Альбиона

По официальным данным Министерства здравоохранения, за предыдущие сутки в Беларуси было зарегистрировано 609 случаев заболевания коронавирусом.

За весь период распространения инфекции на территории страны умерли 2063 пациента.

Минздрав со ссылкой на данные РНПЦ эпидемиологии и микробиологии сообщает, что в Беларуси выявлено несколько первых случаев инфицирования британским штаммом COVID-19. Первые образцы британского штамма нашли у людей, прибывших из Польши, Украины и Египта. Еще несколько положительных образцов получены у пациентов, инфицированных на территории нашей страны.

Новый штамм коронавируса выявлен в Великобритании в начале октября 2020 года. Его основная особенность, которую отмечали изначально, – повышенная заразность. Это только один из нескольких недавно появившихся штаммов. На сегодня он обнаружен уже в десятках стран на разных континентах.

ВЕРДЫКТ

## За палітычныя надпісы на асфальце – 2 месяцы арышту

*18-гадовага магілёўчаніна **Сяргея Турунова** прызналі вінаватым у псаванні маёмасці і нанясенні шкоды дарожна-маставому прадпрыемству на суму 56 рублёў 73 капейкі.*

Хлопец у адным са спальных раёнаў горада ў разгар летапіх пратэстаў напісаў фарбай на асфальтавых пакрыцці і лесвіцы лічбы «3%» і «80%». У яго дзеяннях угледзелі злачынства і абвінавацілі ў парушэнні артыкула 341 Крымінальнага кодэкса ("Апаганьванне і псаванне маёмасці").

11 сакавіка суддзя **Аксана Ратнікава** пастанавіла пакараць Турунова 2 месяцамі арышту і прысудзіла выплаціць шкоду камунальнаму прадпрыемству. Паводле слоў хлопца, такімі надпісамі ён выказваў нязгоду з падробленымі вынікамі прэзідэнцкіх выбараў.

РАЗАМ!

# Звыш 50 беларускіх і замежных арганізацый выступілі ў падтрымку праваабарончага цэнтра «Вясна»

Галоўнае ўпраўленне расследавання злачынстваў цэнтральнага апарату Следчага камітэта Беларусі завяло крымінальную справу аб дзейнасці цэнтра «Вясна». Праваабаронцы з усяго свету лічаць пераслед палітычна матываваным.

Як вынікае з афіцыйных каментарыяў Следчага камітэта, «Вясна» нібыта ажыццяўляе *«фінансаванне і іншае матэрыяльнае забеспячэнне незаконных масавых мерапрыемстваў, якія груба парушаюць грамадскі парадак»* (арт.342 КК).

Цяпер праводзяццаператрусы ў офісах рэгіянальных аддзяленняў і кватэрах сябраў арганізацыі, выклікі на допыты і іншыя працэсуальныя дзеянні.

*«Лічым гэта абсалютна надуманым і галаслоўным абвінавачаннем, а саму атаку на праваабарончы цэнтр "Вясна" – палітычна матываваным пераследам, які мае на мэце спыніць дзейнасць арганізацыі, запалохаць грамадзянскую супольнасць, працягнуць нагнятанне атмасферы страху ў грамадстве. Мы выказваем сваю салідарнасць з "Вясной" і расцэньваем сітуацыю як помсту за актыўную праваабарончую дзейнасць»*, – гаворыцца ў калектыўнай заяве, якую падпісалі 52 беларускія і замежныя праваабарончыя арганізацыі.

Заяўнікі выказваюць рашучы пратэст супраць пераследу калег, аказання ціску на грамадзянскую супольнасць і патрабуюць ад улад Беларусі:

– спыніць пераслед, арышты і іншы ціск на праваабаронцаў і актывістаў у сувязі з іх законнай дзейнасцю, у тым ліку ў аказанні прававой, дабрачыннай і іншай дапамогі ахвярам рэжыму;

– неадкладна спыніць крымінальны пераслед праваабарончага цэнтра «Вясна» і яго сябраў;

– вызваліць з-пад варты праваабаронцаў і валанцёраў **Марфу Рабкову, Андрэя Чапюка, Леаніда Судаленку, Тацццяну Ласіцу, Сяргея Драздоўскага** і **Алега Граблеўскага**, а таксама сотні іншых палітвязняў;

– забяспечыць гарантыі неўмяшання ў законную праваабарончую дзейнасць, спыніць кампанію дыскрэдытацыі актывістаў грамадзянскай супольнасці.

Аўтары звароту заклікалі міжнародныя арганізацыі і інстытуцыі публічна выказаць сваю ацэнку з нагоды пераследу беларускіх праваабаронцаў, а таксама выкарыстоўваць разнастайныя спосабы ўплыву на змяненне цяперашняй сітуацыі.

КАДРАТРУС

# Іван Наскевіч ужо не кіраўнік Следчага камітэта

*Учора стала вядома, што Іван Наскевіч звольнены з пасады старшыні Следчага камітэта.*

Новым старшынёй Следчага камітэта Беларусі прызначаны **Дзмітрый Гара**, які працаваў на пасадзе намесніка генеральнага пракурора.



### Дзмітрый Гара: біяграфія

Узначальваў Міжведамасную камісію, якая вывучала скаргі людзей на пабоі і катаванні з боку сілавікоў пасля выбараў 9 жніўня 2020 года. У выніку яе працы ніводнай крымінальнай справы не было заведзена.

Пасаду намесніка генеральнага пракурора Гара заняў 30 снежня 2019 года.

Яму 50 гадоў, ён родам з Тбілісі. Вучыўся ў Вайсковым інстытуце ў Маскве. З 1993 года працаваў следчым у КДБ. У 2009 годзе быў прызначаны начальнікам следчага ўпраўлення КДБ.

Дзмітрый Гара ўжо заявіў, што кардынальных змен у дзейнасці Следчага камітэта не будзе.

### Чым запомніўся Наскевіч

Следчы камітэт пад кіраўніцтвам Івана Наскевіча не распачаў ніводнай крымінальнай справы супраць сілавікоў за іх гвалтоўныя дзеянні пры разгоне пратэстаў, хоць было некалькі тысяч заяў аб катаваннях і факты смерці. Затое супраць пратэстоўцаў са жніўня 2020 года завялі 2407 спраў «экстрэмісцкай накіраванасці», прыкладна 650 спраў пракурор перадаў для накіравання ў суд.

Івана Наскевіча паставілі кіраўніком СК у 2015 годзе, да таго моманту ён тры гады працаваў пракурорам Брэсцкай вобласці, у якой і нарадзіўся.

Пры Наскевічу праз Следчы камітэт прайшоў шэраг гучных спраў: «справа БЕЛТА», «справа Коржыча», «справа «Белага легіёна», справа аб нападзе школьніка на навучэнцаў і настаўніцу ў Стоўбцах.

ШЧЫРА КАЖУЧЫ

# Як з'явіліся, так і знікнуць

Як насамрэч нараджаліся мільярдныя беларускія IT-стартапы? Ці мае будучыню IT-індустрыя ў Беларусі?

Першы дырэктар Парка высокіх тэхналогій **Валерый Цапкала** сцвярджае, што ідэя стварыць беларускую Крэмніевую даліну належала яму, а ад задумы да пачатку рэалізацыі праекта мінула паўтара года.

*«Мне ў нейкі момант падалося, што ўжо і не ўдасца гэта рэалізаваць. Бо кожны чыноўнік павінен быў паставіць адпаведны подпіс. Глядзіце: калі нейкая ідэя калісьці магла сыходзіць ад Лукашэнкі, то гэтыя дакументы прымаліся досыць хутка. Як Лукашэнку прыйшла ідэя змагацца з «дармаедамі», то цягам некалькіх тыдняў адразу быў гатовы дакумент»*, – распавядае палітык Валерый Цапкала.

Яшчэ адным ініцыятарам стварэння ПВТ называюць уплывовага чыноўніка яшчэ з часоў БССР **Міхаіла Мясніковіча**.

Парк высокіх тэхналогій узнік у 2005 годзе. У 2006-м яго экспарт склаў 22 мільёны долараў і кожны год рос. У 2017-м ён дасягнуў ужо 1 мільярда, у 2019-м, паводле справаздач ПВТ, – больш за 2 мільярды долараў. Офісы для распрацоўвання адкрывалі ў Мінску і сусветна вядомыя кампаніі. Напрыклад, амерыканскі Fitbit, другі па велічыні пасля Apple пастаўшчык разумных гадзіннікаў. Але цяперашняя сацыяльна-палітычная сітуацыя можа запавольць развіццё галіны высокіх тэхналогій у нашай дзяржаве, мяркуе IT-прадпрымальнік **Іван Вядзенін**:

*«Інвестары не рызыкнуць сюды ўкладвацца. Вось такія настроі. А сярод калег-стартапераў кожны другі думае пра рэлакацыю ў больш бяспечнае асяроддзе. Бо тэрмін «прававы дэфолт» азначае, што мы не можам быць упэўнены, што права, закон абараняе, то бок мы не можам у судзе развязваць нейкія пытанні».*

РОДНЫ ГОЛАС

# Аляксандра СЛУЦКАЯ: «Я ведаю, што хутка змагу абняць маму»

*«Калі мама выйдзе на волю, я прывязу яе дахаты, сяду на падлогу каля яе, абдыму за ногі і буду так сядзець доўга-доўга. І нікуды не адпушчу. Нават калі яна захоча кудысьці пайсці, я буду моцна трымаць яе. Як у дзяцінстве», – кажа **Аляксандра Слуцкая**, дачка кіраўніцы «Прэс-клуба» **Юліі Слуцкай**.*



*Мы сустрэліся з Сашай паміж яе паездкамі ў СІЗА, да адвакатаў, зборам перадач, паходамі на пошту і яшчэ безліччу розных спраў, якія цяпер сталі для яе амаль руціннай. Усе яе высілкі скіраваны на тое, каб зрабіць усё магчымае для мамы і брата, якія ўжо больш за два месяцы знаходзяцца ў СІЗА №1.*

– Майго мінулага жыцця больш няма, майго жыцця больш няма… – *Саша не жаліцца, яна проста спрабуе пераказаць тое, што зараз з ёй адбываецца.* – Мы нібыта памяняліся з мамай месцамі. Цяпер я – мама для яе. Гэта вельмі дзіўнае адчуванне. Так сталася, што я вырашаю, што мама будзе есці, ува што апранацца, што чытаць, нават чым будзе мыць галаву і чысціць зубы. Я сустракаюся з яе сябрамі… Трэба сказаць, што мне гэта падабаецца, мне так лягчэй. Значна горш на выхадных, калі няма ўсіх гэтых спраў і калі не прыходзіць пошта.



Аляксандра з мамай і братам Пятром.

Паўсядзённыя справы не даюць мне засмучацца. Я цэлымі днямі нечым занята. То сустракаюся з адвакатам, то выбіраю рэчы для мамы, то абдумваю, што ёй сабраць на перадачу. Пры любым выпадку праходжу каля Валадаркі, каб хоць так быць бліжэй да мамы. Для мяне гэта своеасаблівая тэрапія.

А яшчэ я ёй пішу. Пішу кожны дзень. Апісваю ўсё, што адбываецца. Пытаюся маміных парад. Мы з мамай дамовіліся, што а 10-й вечара будзем у думках размаўляць. І цяпер кожны вечар размаўляем. У думках яна прыходзіць да мяне ў госці, я прыходжу да яе. Мы разам гуляем. Абмяркоўваем прачытанае. Я, дарэчы, адмыслова пытаюся ў мамы ў лістах, што яна зараз чытае, каб чытаць тое ж і мець магчымасць гэта абмяркоўваць. Так што а кожны вечар разам з мамай, мы перашэптваемся, плятікарым, дзелімся сакрэтамі, як і раней, нібыта няма паміж намі кратаў…





З мамай – найлепшыя сяброўкі.

Мама нарадзіла мяне ў 19 гадоў. Я заўсёды хвалілася сваёй маладой мамай. І мы ўвесь час былі з ёй сяброўкамі. Але разам з тым мама для мяне – аўтарытэт, я хацела вырасці і быць падобнай да яе. Спадзяюся, што хоць у нечым я сапраўды падобная да мамы. Самым страшным у дзяцінстве было ўбачыць у маміных вачах расчараванне. Яна ніколі не сварылася, ніколі не наракала.

У мяне вельмі шмат самых цёплых успамінаў з дзяцінства. У самыя цяжкія часы (а маё дзяцінства прыйшлося на 1990-я) мама старалася зрабіць так, каб у нас было ўсё. Я памятаю мой ружовы штрокасы камбінезон, які мама сама мне пашыла. Мама, якая дагэтуль нават не ўяўляла, як гэта зрабіць. А яна пашыла, і я памятаю, як ён мне падабаўся. Памятаю, як на апошнія грошы мы паехалі адпачываць у Балгарыю – і мама рабіла ўсё, каб мы запомнілі гэты адпачынак.

Памятаю, як, калі мне было каля 4 гадоў, мы гулялі ў парку і знайшлі параненае вавёрчаня. Мы яго забралі дахаты, выхадзілі і выкармілі…

У мяне самая лепшая мама ў свеце. І мама ведае, што я яе вельмі люблю. А я ведаю, што хутка змагу яе абняць. Яе і майго Пецю, самага лепшага брата. Я цяпер сню шмат каляровых сноў, такіх яркіх і дзіўных. У іх мы разам, пасля яе вызвалення, у розных месцах, у нейкім не вельмі добрым савецкім санаторыі, яшчэ недзе. Але мы разам. І я чую, як мама чхае. Ведаеце, у маёй мамы проста фірмовае чханне. Яна ніколі не чхае адзін раз, заўсёды не менш за тры. І вось у сне я чую: чых-чых-чых-чых-чых. Пяць разоў! І раптам бачу нашы сцягі… Вось такія сны.

Вы ж ведаеце, што маму затрымалі, калі мы вярталіся з адпачынку ў Егіпце. Мы былі там разам з маімі дзецьмі Арсенем і Алісай. Надзіва, я змагла, як ніколі, пабыць побач з мамай, дзеці збольшага нам не перашкаджалі, займаліся сабой самі. Мы шмат гулялі, размаўлялі, я, як у дзяцінстве, залазіла пад коўдру да мамы. Нагаварыліся пра ўсё-ўсё. Я вельмі падзарадзілася гэтым адпачынкам. Спадзяюся, і мама таксама.

Дарэчы, у Егіпце мы забылі зайку, якога калісьці Алісе падарыла мама. Аліса вельмі перажывала. Такіх у нас няма, мама прывезла яго з замежжа. Я напісала пра гэта ў сацсетках. І, надзіва, праз нейкі час нам прывезлі такога ж зайку. Але самае дзіўнае, што на наступны дзень прыйшоў ліст ад мамы, у якім яна напісала для Алісы казку пра Зайку, які згубіўся, але праз усе выпрабаванні зноў вярнуўся да сваёй гаспадыні.

Так і мама мая хутка да мяне вернецца. І брацік мой. Я гэта дакладна ведаю. Але пакуль гэта не здарылася, я буду рабіць усё, што ад мяне залежыць. А яшчэ я не разбіраю ялінку. Яны вернуцца – і мы ўсе разам адзначым Новы год.

Я, канешне, перажываю за яе здароўе. Але яна ў мяне моцная, з жалезным стрыжнем унутры. А яшчэ вельмі таленавітая, добрая, адданая, найлепшы ў свеце чалавек.

Мама пісала, што ёй вельмі не хапае позірку ўдалечыню, птушыных спеваў, сонца, гукаў і пахаў. А ў мяне зараз яе шалік, я прытуляю яго да твару і дыхаю-дыхаю, у яго мамін водар. У мяне засталася маміна касметыка, яе парфума (гэта было ў маёй валізцы ў аэрапорце). І зараз я імі карыстаюся, каб падыхаць маміным водарам. Канешне ж, я сумую, але я ведаю, што ўсё будзе добра.

Я спадзявалася, што маме зменяць меру стрымання. Гэтага не здарылася, але гэта не значыць, што цяпер я буду ў роспачы. Не, гэта толькі надало мне новы імпульс. І тое, што цяпер адбываецца, – вельмі цяжкі, але такі важны і, на жаль, неабходны этап да нечага новага і прыгожага. Штуршок, каб падняцца наверх. Я дакладна ведаю. Таму зараз сціскаем зубы і змагаемся. І дакладна ведаем, што наперадзе – вялікае шчасце.

Я ведаю, што мама амаль не атрымлівае лістоў, хоць сотні людзей ёй пішуць. А яшчэ больш людзей змагаюцца за яе і за ўсіх, хто сёння за кратамі. Проста зараз рэкі здаюцца непераадольнымі, а горы непраходнымі. Але гэта толькі здаецца. У дзяцінстве мама мне расказвала прыпавесць пра дзвюх жабак, якія трапілі ў збанок са смятанкай. Сітуацыя здавалася бязвыхаднай, і адна перастала боўтацца і патанула. А другая ўзбіла масла і выскачыла. Мама навучыла мяне быць другой жабкай.

У мяне з мамай заўсёды была вельмі моцная ментальная сувязь, а цяпер мне наогул здаецца, што мы з ёй адно цэлае. І зараз мне хочацца ёй сказаць: «Калі ласка, не падай духам! Калі я буду гэта ведаць – я ўсё змагу. Вельмі-вельмі цябе люблю і ганаруся тым, што я твая дачка. Ганаруся да мурашоў па целе. Мы разам, мы побач. За намі праўда. А ў праўды такая аграмадная сіла, што яна ўсё зможа перамагчы».

***

*Я размаўляла з Сашай і спрабавала ўявіць, як адчувала б сябе на яе месцы мая дачка. Што дасылала б я ў лістах сваіму ўнуку. Магчыма, таксама казкі і малюнкі. Сёння за кратамі сотні і сотні мам і татаў, жонак і мужоў, бабуль і дзядуль, сыноў, дачок, унукаў. Тых, хто меў гонар выйсці на абарону вольнай і незалежнай Беларусі. Лепшых людзей нашай краіны. Мы пакуль на волі, а таму павінны цяпер зрабіць усё, каб яны як мага хутчэй змаглі ўбачыць сваіх родных.*

**Аксана КОЛБ.**

*(«Новы час»)*

ПРОГНОЗ

# Лето будет длиться шесть месяцев

*Китайские ученые рассказали, как изменится климат в Беларуси. Вот почему это не очень хорошо*

Группа ученых из Китайской академии наук пришла к выводу, что если страны мира не предпримут меры по смягчению последствий при изменении климата, то в Северном полушарии лето может длиться до шести месяцев. Напомним, что Беларусь как раз находится в этой части Земного шара. Правда, произойдет это приблизительно к 2100 году.

*«Лето становится длиннее и жарче, а зима короче и теплее из-за глобального потепления»,* – говорит **Юпин Гуань**, физический океанограф из Государственной ключевой лаборатории тропической океанографии Института океанологии Южно-Китайского моря Китайской академии наук и ведущий автор нового исследования в журнале Geophysical Research Letters.

Ученые утверждают, что за последние полгода продолжительность лета уже увеличилась на 17 дней, зима сократилась на три дня, весна – на девять, а осень – на пять.

*«Многочисленные исследования показали, что подобная смена сезонов окажет значительное влияние на окружающую среду и здоровье людей. Например, птицы поменяют характер миграции, а растения будут цвести в разное время. Эти изменения создадут несоответствия между животными и их источниками пищи»,* – пишет *Phys.org.*

По мнению ученых, более жаркое и продолжительное лето заставит страдать от высоких температур, тепловых волн и лесных пожаров. Теплые и короткие зимы вызовут нестабильность, которая в свою очередь приведет к скачкам холода, зимним штормам, похожим на недавние снежные бури в Техасе и Израиле.

*«Телеграф»* публиковал материал на тему глобального изменения климата и связанных с этим угроз.

Совет Безопасности ООН пришел к выводу, что изменения климата являются серьезнейшей угрозой мировой безопасности, подрывающей политическую, экономическую и социальную системы.

*«Наука говорит ясно: мы должны ограничить повышение глобальных температур полутора градусами к концу столетия. А наш долг еще более ясен: мы должны защитить людей и сообщества, которые страдают от изменения климата. Мы должны ускорить подготовку к нарастающим последствиям климатического кризиса во имя международного мира и безопасности»,* – подчеркнул Генсек ООН **Антониу Гутерриш**.

РЕЙТИНГ

# Организаторы конкурса «Всемирный автомобиль года» огласили список финалистов



Организаторы конкурса «Всемирный автомобиль года» огласили шорт-лист автомобилей, претендующих на победу в конкурсе в этом году в основной и дополнительных номинациях. Жюри конкурса, в состав которого вошли 90 автожурналистов из 29 стран, объявит победителей WCOTY 20 апреля.

В этом году в финальную часть основного конкурса вышли автомобили Audi A3, BMW 2-Series Gran Coupe, BMW 4-Series, Honda e, Kia K5, Kia Sorento, Mazda MX-30, Mercedes GLA, Toyota Yaris и Volkswagen ID.4.

За звание лучшего городского автомобиля будут бороться Honda Jazz, Hyundai i10, Hyundai i20, Honda e и Toyota Yaris, а в пятерку претендентов на звание автомобиля с лучшим дизайном вошли Honda e, Land Rover Defender, Mazda MX-30, Polestar 2 и Porsche 911 Turbo.

Кроме того, победителей конкурса определят в номинациях «лучший роскошный» и «лучший спортивный автомобиль». На это звание претендуют Aston Martin DBX, BMW X6, Land Rover Defender, Mercedes S-Class и Polestar 2 (в первой номинации) и Audi RS Q8, BMW M2 CS, BMW X5 M/X6 M, Toyota GR Yaris и Porsche 911 Turbo (во второй номинации).

Напомним: накануне хэтчбек Toyota Yaris стал победителем конкурса «Автомобиль года в Европе 2021» (Car of the Year 2021). По итогам голосования членов жюри, в которое вошли 59 автожурналистов из 22 стран, хэтчбек Toyota получил 266 баллов, немного опередив Fiat New 500 (240 баллов) и Cupra Formentor (239 баллов). В топ-5 также вошли электрокар Volkswagen ID 3 (224 балла) и Skoda Octavia (199 баллов). Всего на премию было номинировано 29 автомобилей, которые поступили в продажу как минимум в пяти европейских странах до конца 2020 года.

Эксперты похвалили Toyota Yaris за наличие как экономичной гибридной модификации (80% европейских покупателей выбирают именно ее), так и «заряженной» трехдверной версии GR Yaris. Одним из весомых достоинств этой модели также назвали хороший уровень безопасности, которого разработчикам удалось достичь, несмотря на компактные размеры автомобиля.

НЕДВИЖИМОСТЬ

# В США начали продавать напечатанные на 3D-принтере дома

*Американский стартап Icon начал продавать в США дома, напечатанные на 3D-принтере. Пока что такие дома можно приобрести по цене от 450 тысяч долларов в Остине (штат Техас).*



Как пишет *New Atlas*, Icon реализует этот проект с компанией 3Strands, а разработкой дизайна домов, которые создаются при помощи технологии 3D-печати, занимается компания Logan Architecture. В зависимости от проекта площадь домов составляет от 92 до 185 квадратных метров, а в отделке используется небольшое количество материалов, включая дерево, металл и плитку. Ожидается, что владельцы первых домов смогут въехать в них летом этого года.

В описании уточняется, что первые этажи домов печатаются при помощи разработанного Icon 3D-принтера Vulcan с использованием традиционной технологии послойной печати. В качестве строительного материала принтер использует специальную бетонную смесь. В то же время вторые этажи домов возводятся на каркасе из бруса без использования 3D-печати.

Напомним: в конце 2019 года Icon и некоммерческие организации New Story и Echale приступили к реализации проекта по строительству поселения для малоимущих семей в мексиканском штате Табаско. Тогда на 3D-принтере были напечатаны первые два дома будущего поселка. Постройки площадью 46,5 квадратного метра были напечатаны на принтере Icon Vulcan II, разработанном для работы в удаленной сельской местности, где традиционное строительство затруднено из-за непредсказуемой погоды и ограниченных ресурсов. При проектировании домов учитывалась повышенная сейсмоактивность в районе строительства.

НУ И НУ!

# В Сан-Франциско почти на километр передвинули особняк XIX века

*21 февраля в Сан-Франциско успешно осуществили операцию по перемещению старинного особняка на новое место.*



Построенный в 80-е годы XIX века двухэтажный дом переместили на шесть кварталов от его прежнего места. Расстояние в 800 метров установленный на специальной платформе дом преодолел за 4 часа, а за процессом наблюдали многочисленные зрители. Операция обошлась владельцу здания примерно в 400 тысяч долларов. На прежнем месте он планирует построить 8-этажный жилой дом на 48 квартир, а передвинутый особняк будет реконструирован на новом месте – в нем обустроят семь квартир.

По данным Исторического общества Сан-Франциско, в последний раз особняк Викторианской эпохи в городе передвигали на новое место 50 лет назад.

Напомним: в прошлом году к практике перемещения построек на новое место вернулись в Москве – несколько исторических зданий были передвинуты на территории компрессорного завода «Борец» в Марьиной Роще.

До этого исторические здания в Москве в последний раз передвигали в 1979 году. Тогда дом Сытина на Тверской улице переместили к углу Настасьинского переулка, чтобы сохранить историческую постройку, одновременно освободив пространство для нового корпуса «Известий». В 1983 году в Москве на 20 метров вглубь квартала переместили коробку сцены разрезанного пополам здания старого МХАТа в Камергерском переулке, но тогда речь не шла о перемещении здания целиком. Активнее всего старые дома в Москве передвигали в 30–40-е годы прошлого века. В некоторых случаях дома перемещали прямо вместе с жителями.

СЛЫШАЛИ?

# В Великобритании на продажу выставили ядерный бункер с 56 спальнями

В Великобритании выставили на продажу подземный бункер, расположенный в графстве Девон рядом с курортным городом Салкомб. Начальная стоимость лота составляет 435 тысяч фунтов стерлингов (607 тысяч долларов).

Двухэтажный бункер Hope Cove был построен в 1941 году в качестве радиолокационной станции. После Второй мировой войны в связи с угрозой ядерной атаки объект был переоборудован: в 50-е годы прошлого столетия его превратили в резервную правительственную штаб-квартиру. В убежище обустроили 56 спален, и в случае ядерной атаки он мог вместить до 250 госслужащих. Запасов топлива должно было хватить на 35 дней работы генераторов системы энергоснабжения и жизнеобеспечения. Объект находился в состоянии готовности до 1990-х годов.

Впервые бункер попытались продать в феврале этого года, но тогда на аукционе лот не достиг резервной цены, и теперь его снова выставили на торги. Как сообщил *Sky News* смотритель объекта **Кристофер Хауэлл**, в бункере, возможно, обитает призрак, который является в облике военного летчика времен Второй мировой войны.

По словам представителя аукционного дома Clive Emson Auctioneers, бункером интересовался целый ряд потенциальных покупателей. Так, некоторые рассматривают возможность превратить его в склад вина или сыра, а другие видят в нем будущий общественный центр с помещениями для различных занятий. Некоторые клиенты размышляют о превращении бункера в отель.



БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

# Жирная рыба полезна для сердечников

Как отмечает *Medical Express*, масштабное исследование, включавшее данные почти 192.000 добровольцев более чем из 60 стран (примерно у 52.000 из них были сердечно-сосудистые заболевания), показало, насколько важно регулярно употреблять жирную рыбу. По словам ученых из Университета Макмастера, жирная рыба помогает предотвратить сердечно-сосудистые заболевания у лиц из группы высокого риска.

В этой группе находятся, например, лица, уже страдающие сердечными заболеваниями или пережившие инсульт. Важнейшим ингредиентом рыбы являются жирные кислоты омега-3. Они, как выяснили исследователи, были связаны с пониженным риском серьезных сердечно-сосудистых отклонений, включая сердечные приступы и инсульты.

Снижение риска составляло примерно одну шестую для людей из группы высокого риска, которые ели в неделю по две порции рыбы, богатой омега-3. Однако не наблюдалось пользы от употребления рыбы у людей без сердечных заболеваний или истории инсульта.

ИССЛЕДОВАНИЯ

# Онкологи предложили лечить рак почки по-новому

Почечно-клеточная карцинома, наиболее распространенная форма рака почки, как правило, на момент обнаружения уже неоперабельна. Стандартная медикаментозная терапия обычно позволяет выиграть менее года жизни. Как сообщает *The Daily Mail*, новые исследования комбинированной терапии дают надежду пациентам с раком почки. Было установлено, что комбинация двух широко используемых противораковых препаратов, ниволумаба и кабозантиниба, увеличивает продолжительность жизни в два раза по сравнению с обычной терапией, а в некоторых случаях даже полностью избавляет от рака. Притом, комбинация провоцирует меньше побочных эффектов.

Сунитиниб – препарат, останавливающий рост новых кровеносных сосудов в опухоли. Он урезает приток кислорода и питательных веществ, что вызывает сокращение опухоли и остановку ее роста. Данный препарат способен затормозить прогрессирование рака минимум на 8 месяцев.

Но исследования американских ученых показали, что комбинация ниволумаба и кабозантиниба, двух препаратов, используемых для лечения других типов рака, может показать более выдающиеся результаты. Ниволумаб помогает иммунной системе выслеживать и уничтожать раковые клетки. Кабозантиниб действует аналогично сунитинибу, блокируя рост кровеносных сосудов в опухолях.

Вместе они останавливают прогрессирование рака в среднем на 17 месяцев. В группе принимавших комбинированную терапию было на 34% меньше смертей по сравнению с группой принимавших сунитиниб. Опухоли полностью исчезли у 9% пациентов, получавших комбинированную терапию, по сравнению с 4% пациентов, получавших сунитиниб.

ВНИМАНИЕ!

# Весенняя охота: что не так?

*13 марта в Беларуси открывается весенняя охота на водоплавающих птиц. С этого года запретили добывать весной красноголового нырка (глобально уязвимый вид). Но общественная организация «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ) просит охотников дополнительно ввести самоограничения на время весенней охоты.*

### «Война» не на равных

Дело в том, что в Беларуси условия весенней охоты на водоплавающих неуместно жесткие по отношению к птицам. В Европе такая охота разрешена еще и в России, но срок ее там короче. В нашей стране это практически два месяца – до второго воскресенья мая.

Раньше в Беларусь массово приезжали охотники из Западной Европы и России, чтобы неделю-другую попалить по птицам, как в тире. В прошлом году этому помешал коронавирус, поэтому обошлось без обычных весной масакр, когда под выстрелы попадают и самки, и неохотничьи виды.

Однако даже без участия итальянских и других западноевропейских охотников прессинг на водоплавающих в Беларуси необоснованно велик. Законом разрешены полуавтоматические ружья, электронные звукововоспроизводящие устройства, в интернете и на ТВ легко найти все инструкции. Шанса выжить у птиц почти нет.

*– В Нидерландах разрешена охота только на крякву, наш законодатель разрешает добывать девять видов уток из 23, встречающихся в стране,* – замечает **Александр Винчевский**, директор АПБ. – *Но большинство охотников плохо различают виды. Цена ошибки весной очень высока. Будьте внимательны. Не уверен – не стреляй.*

### На каких птиц разрешено охотиться весной?

В Беларуси разрешена весенняя охота на **серого гуся**, **гуменника**, **белолобого гуся** и инвазивную чужеродную **канадскую казарку**. В конце апреля у серых гусей в Беларуси часто уже вылупляются птенцы. Законодатель разрешает стрелять гусей без учета пола и возраста. А гуси формируют пары на всю жизнь и не размножаются в текущем сезоне в случае потери партнера.

Из уток в Беларуси весенняя охота разрешена на самцов **кряквы**, **широконоски**, **хохлатой чернети**, **чирка-трескунка**, **чирка-свистунка**, **серой утки**, а также на селезней **гоголя** и **свиязи**. Но для уток характерна сезонная моногамия. Они формируют пары еще перед зимовкой. Уже в октябре после восстановления брачного наряда у самцов кряквы на городских водоемах можно наблюдать ухаживание и формирование пары. В природе нет лишних самцов. Самец сторожит самку у гнезда, сопровождает на кормление и покидает, только убедившись, что все птенцы вылупились.



«Краснонижного» гуся-пискульку очень легко спутать с белолобым гусем, охота на которого разрешена.

### Не охотиться весной на водоплавающих – в интересах самих охотников

Беспокойство, вызванное охотниками, в период ухаживания и инкубации негативно сказывается на успехе размножения как охотничьих, так и других видов птиц. Не говоря о том, что случайно или по незнанию под выстрелы попадают самки и запрещенные к добыче виды.

АПБ выступает за закрытие в Беларуси весенней охоты на водоплавающих птиц, но, понимая, что сегодня это сделать невозможно, призывает охотников ввести самоограничения в весенний сезон. Это поможет уменьшить негативное влияние весенней охоты.

### АПБ обращается к охотникам с просьбой...

ОО «Ахова птушак Бацькаўшчыны» призывает охотников не стрелять весной следующие виды птиц:

**– чирок-трескунок** – по оценке Красного списка Международного союза охраны природы и природных ресурсов численность этого вида в мире падает (в Беларуси, по данным орнитологов НАН Беларуси, тоже), причем стремительно. Отстрел самцов весной только ускоряет этот процесс;

**– серый гусь** – в 2004–2005 годах был включен в национальную Красную книгу, его численность в стране была всего 250 пар. Чтобы дать популяции восстановиться, нужен мораторий. Гуси очень консервативны, если весной на него не охотиться – они будут возвращаться в это место на гнездование из года в год, вместе с птенцами на следующий год;

**– белолобый гусь** – хоть численность этого гуся растет, есть очень большой риск спутать его во время охоты с глобально уязвимым видом – гусем-пискулькой, охота на которого запрещена в Беларуси. К сожалению, почти каждый год весной этот «краснонижный» вид попадает у нас под выстрелы;

**– гуменник** – численность таежного подвида (*Anser fabalis fabalis*) этого гуся в мире сокращается.

### Кроме того, АПБ просит охотников:

- *выходить на охоту только в начале сезона, ближе к зиме;*
- *установить для себя лимит добычи, который не превышать даже при хорошем лете уток и гусей: например, не более двух птиц в день;*
- *не брать на охоту по перу полуавтоматическое ружье с магазином, рассчитанным на более чем два заряда (в Западной Европе они запрещены, так как оставляют птицам меньше шансов выжить);*
- *не использовать электронные манки (в Западной Европе и России они запрещены);*
- *для охоты у водоемов использовать ружья под стальную дробь, а не свинцовую.*

Это смягчит негативное воздействие весенней охоты на водоплавающих птиц и даст возможность уязвимым видам восстановить популяцию.

С этого года разрешена и весенняя охота на сизых голубей. Однако АПБ просит охотников воздержаться от стрельбы по ним: сизого голубя очень легко спутать в поле с голубем-клинтухом, находящимся в Беларуси под охраной закона.

**Александр ВИНЧЕВСКИЙ, общественная организация «Ахова птушак Бацькаўшчыны».**

ВАС ИНТЕРЕСУЕТ...

# Вышел ли на волю академик Белецкий?

*Прошел слух, что экс-директор РНПЦ травматологии и ортопедии уже на свободе.*



«Народная Воля» уточнила подробности у одного из адвокатов академика.

*«Пока никаких хороших новостей нет»*, – говорит Сергей Буякевич.

Может ли известный доктор быть освобожден условно-досрочно?

По словам адвоката, *«здесь есть нюансы: в законодательство были внесены изменения, которые вступают в силу с 13 апреля этого года. Но есть перечень лиц, к которым не применяется условное-досрочное освобождение или замена наказания на более мягкое, – в него попадают и осужденные за коррупционные преступления».*

*«Только после того, как начнут действовать изменения в УК и УПК, можно будет ставить вопрос о возможности применения данной нормы к моему подзащитному»*, – говорит адвокат про возможность условно-досрочного освобождения академика.

Для осужденных за коррупцию также не предусмотрена амнистия.

Зато Александр Белецкий может написать прошение о помиловании – его будет рассматривать специальная комиссия, а решение принимать глава государства. Адвокат не в курсе, намерен ли известный доктор обратиться с подобным ходатайством.

*«Он может это сделать, и не ставя своих адвокатов в известность»*, – говорит он. – *Я не владею информацией, писал Белецкий такие прошение или нет».*

Последний раз Сергей Буякевич виделся с Александром Белецким накануне рассмотрения его апелляционной жалобы в Верховном суде – приговор экс-директору РНПЦ травматологии и ортопедии оставили в силе.

Как сообщала «Народная Воля», в феврале 2019 года Минский городской суд признал 61-летнего профессора, члена-корреспондента НАН Беларуси, академика, лауреата Госпремии виновным в получении взяток. А в его гараже нашли 500 тысяч долларов. Их вначале арестовали, однако позже суд вернул академику деньги – в Уголовный кодекс были внесены изменения, согласно которым исключено дополнительное наказание в виде конфискации имущества.

Белецкого приговорили к 7 годам и 6 месяцам лишения свободы. Наручники на него надели в зале суда. В своем последнем слове известный доктор признал вину в том, что брал деньги, которые считал подарками от друзей, и заявил, что проявил слабость, не возвратив их. Академик просил не лишать его работы.

Александр Белецкий отбывает наказание в витебской исправительной колонии **№3** в поселке Витьба.

**Марина КОКТЫШ.**

СУД!

# За што Раману Улану свеціць «хімія»?

*Гродзенскі абласны суд пакінуў без змен рашэнне Смаргонскага раённага суда ў дачыненні да смаргонскага прадпрымальніка Рамана Улана. Ён быў асуджаны на 2,5 года так званай "хіміі" паводле артыкула 188 КК за паклёп на міліцыянераў. Абласная калегія суддзяў не прыняла да ўвагі і 220 подпісаў, якія ў абарону Улана сабралі яго землякі.*

### Пасляжнівеньскі сіндром

Крымінальная справа супраць Улана была ўзбуджана на пачатку восені. Пасля жнівеньскіх падзей у Смаргоні нехта расклеіў на платах улёткі з асабістымі дадзенымі мясцовых міліцыянераў, аб якіх гаварылася, што яны ілжэсведчылі ў судах.

Улан сфатаграфаваў гэтыя ўлёткі і змясціў здымкі ў "ВКонтакте" пад каментарыямі ў гарадскім чаце "Чуткі Смаргоняў". Сямёра міліцыянераў, прозвішчы якіх былі на ўлётках, падалі ў суд. Па слядах фотаздымка прыйшлі да Улана.

Правяліператрус, канфіскавалі больш за дзясятак адзінак тэхнікі і паралізавалі працу яго офіса. А ён, дарэчы, адзіны ў Смаргоні зараджаў картрыджы прынтараў, раздрукоўваў фотаздымкі, наносіў прынты на майкі і посуд, рэалізоўваў канцылярскія прылады і сувеніры з нацыянальнай сімволікай. Праўда, смаргонцы яго ў бядзе не пакінулі: нехта прынёс прынтар, нехта – камп'ютар, іншую тэхніку, каб не спынялася яго праца. І большасць людзей прыходзіла да Рамана рабіць заказы, нават калі ў іх не было патрэбы, каб такім чынам падтрымаць яго грашова.

Адрэагавалі і гарадскія службы: Улана пачалі цягаць у падатковую, прыйшлі пажарнікі і прадстаўнікі санэпідэмстанцыі. Выпісвалі ўсё новыя штрафы.

Тады Раман згадваў, што нешта падобнае перажываў у 2005 годзе, калі закрылі "Новую газету Сморгоні", якую ён выдаваў. Газета, дарэчы, за некалькі гадоў існавання ў тры разы перавысіла наклад мясцовай раёнкі і не паддавалася кантролю мясцовых улад. Тады не толькі знішчылі газету, але і пазбавілі Улана паўнамоцтваў дэпутата раённага Савета.



Гэтым разам ніхто не мог нават уявіць, да чаго можа дайсці справа. Раман згадвае, што блізкія сябры і знаёмыя суцяшалі і супакойвалі: маўляў, дадуць штраф, і на гэтым усё скончыцца.

### Рашэнне суда было нечаканым

Раённы пракурор **Андрэй Клышэвіч** запрасіў для Улана максімальную санкцыю – 3 гады абмежавання волі з накіраваннем у папраўчую ўстанову. Суддзя **Сяргей Боландзь** сваім рашэннем зменшыў пакаранне на паўгода. Раман быў у шоку.

Віну сваю ў судзе не прызнаў, пераканаўны ў тым, што такім чынам яму помсцяць за яго актыўную грамадзянскую пазіцыю.

*"Я, канешне, нічога падобнага не чакаў,* – казаў тады Улан "Народнай Волі". – *Я гэтых улётак не пісаў і не развешваў, а толькі сфатаграфаваў і згадаў не адмяняў. З мяне напросту зрабілі крайняга. А спадзявацца на правасуддзе цяпер наогул не выпадае – у краіне прававаы дэфолт".*

Акрамя гэтага, яму прысудзілі сплаціць пацярпелым буйныя сумы за «маральныя пакуты» і значную судовую пошліну: міліцыянерам – пад 3 тысячы рублёў, судовая пошліна – больш за 600 рублёў. У даход дзяржавы канфіскавалі камп'ютар, манітор, іншую тэхніку, арыштавалі аўтамабіль пад гарантыі выплаты штрафаў.

### «Калі б не нашы смаргонцы...»

*"Калі б не нашы смаргонцы, я не ведаў бы, што рабіць з гэтым усім,* – прызнаецца Раман. – *Мясцовыя людзі сабралі мне больш за 70 працэнтаў ад усёй сумы штрафаў".*

Раман згадвае, што нават плакаў, калі людзі, што працуюць у дзяржаўных установах і маюць малыя заробкі, прыносілі яму грошы: маўляў, бяры, ты за ўсіх нас цярпіш.

"Народная Воля" пагутарыла з некаторымі смаргонцамі, якія падпісаліся пад петыцыяй у абласны суд з патрабаваннем адмяніць пакаранне Улану. Да прыкладу, **Яўген Мацкевіч** сказаў, што Раман вядомы у Смаргоні яшчэ з тых часоў, калі ён выдаваў "Незалежную газету Смаргоні", гэта чалавек, які ніводнага разу не скампраметаваў свайго імя. *"Гэта чэсны і прыстойны чалавек. А яшчэ ён ніколі не адмовіў таму, каму патрэбна дапамога",* – падсумаваў Яўген Мацкевіч.

Прадпрымальніца **Рыта Навумава** заўважыла, што да Улана заўсёды цягнуліся людзі і ў яго офісе ў цэнтры Смаргоні заўсёды было шмат народу. *"Ведаеце, да Рамана людзі прыходзілі, не толькі каб заказаць нешта, з ім раіліся па розных пытаннях,* – гаворыць жанчына. – *Ён ніколі чалавеку не адмаўляў, дапамагаў чым мог".*

А **Сяргей Трай** кажа, што Раман ніколі не скупіўся, заўсёды разумеў становішча заказчыка: *"Не імкнуўся набольш сарваць з чалавека, у яго заўсёды былі зніжкі на заказы, стараўся, каб было добра не толькі яму, а і кліенту".*

Дарэчы, паводле слоў Рамана Улана, нават некаторыя з тых міліцыянераў, каму ён павінен сплаціць "за маральныя пакуты", перадавалі яму праз знаёмых, што гэта не іх жаданне, а загад начальства.

*"У Смаргоні ўсяго каля 40 тысяч жыхароў, людзі ведаюць адзін аднаго,* – заўважае Раман. – *А як яны будуць глядзець у вочы сваім суседзям, то гэта ўжо іх справа, калі загады начальства для іх важнейшыя за Закон і сумленне".*

### Надзея памірае апошняй, але памірае...

Скаргу Улана ў абласным судзе разглядала калегія суддзяў на чале з **Андрэем Ліхачом**. Даклад па справе рабіў суддзя **Раманоўскі**.

Перад пачаткам разгляду скаргі Раман ніякіх спадзяванняў на змену прысуду не меў. *"Рыхтуюся да "хіміі"*, – сумна заўважыў ён, перад тым як зайсці ў залу суда. – *Бо хто тут што зменіць? Нейкая надзея, канешне, ёсць, але гэта як нешта апошняе".*

Дарэчы, Раману Улану 56 гадоў, і ў такім узросце ехаць на "хімію" – зусім не вясёлы варыянт. Пазней, падчас свайго выступлення перад абласнымі суддзямі, ён скажа і пра гэта, але аргумент застанецца па-за ўвагай.

Перад калегіяй суддзяў ён казаў, што раённы суд не захаваў аб'ектыўнасць пры разглядзе справы. У прыватнасці, у ходзе судовага следства, нягледзячы на неадназоравыя хадайніцтвы, факт пэўнасці інфармацыі пра міліцыянераў, якая была змешчана ва ўлётках, аднасна таго, што яны ілжэсведчылі на судах, не спраўджваўся. Але ў той самы час Улан прывёў факты, што Смаргонскі суд апраўдаў на пяці працэсах абвінавачаных, супраць якіх сведчылі гэтыя самыя міліцыянеры.

Указаў ён і на тое, што злачынства, якое караецца паводле артыкула 188 КК, звodзіцца да наяўнасці "наўмыснага паклёпу" ў момант распаўсюджвання звестак.

*"Я ж не вырабляў і не расклейваў гэтых улётак,* – канстатаваў Улан. – *Я зрабіў здымкі для гісторыі, каб людзі памяталі, што такія падзеі адбываліся ў нашым горадзе".*

Прасіў Улан улічыць і тое, што ў яго на ўтрыманні маці, якая мае 1-ю групу інваліднасці. Урэшце далучыў да справы 220 подпісаў смаргонцаў, якія патрабуюць адмяніць яго прысуд.

Пракурор **Горбач** папрасіла калегію суддзяў не мяняць рашэння Смаргонскага суда і спаслалася на тое, што факты дакладнасці інфармацыі пра міліцыянераў, якая была змешчана на ўлётках, не пацвердзіліся.

*"І ўсе яны характарызуюцца на працы са станоўчага боку",* – канстатавала пракурор.

Цікава, што ў Смаргоні так і не знайшлі таго, хто надрукаваў і расклеіў улёткі па горадзе. Нібыта некага затрымлівалі, дапытвалі, але далей справа не пайшла.

Калегія суддзяў Гродзенскага абласнога суда абвясціла вердыкт: рашэнне Смаргонскага раённага суда ў дачыненні да Рамана Улана пакінуць без змен.

*"У мяне няма слоў, каб гэта каментаваць,* – з горыччу ў голасе заўважыў Улан. – *Проста пераследуюць актыўных людзей, і не толькі мяне. Самыя горшыя якасці ўлады цяпер вылазяць вонкі..."*

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# Чым займаюцца спартсмены, якія пацярпелі за сваю пазіцыю?

*Пасля 9 жніўня мінулага года многія беларускія спартсмены выказалі сваю грамадзянскую пазіцыю і выступілі за правядзенне справядлівых выбараў і супраць гвалту. Некаторыя затым патрапілі пад ціск чыноўнікаў і нават былі вымушаны з'ехаць за межы краіны…*

## Андрэй Краўчанка трэніруецца, але не плануе ехаць на Алімпіяду

Сярэбраны прызёр Алімпіяды пасля падпісання ліста спартсменаў з патрабаваннямі да ўлады вымушаны быў зрабіць выбар. Ён 15 гадоў адслужыў у КДБ, даслужыўся да звання маёра, але пасля таго, як патрапіў у спіс "ненадзейных", з Міністэрства спорту яго адкамандзіравалі ў КДБ, пасля чаго Краўчанка напісаў рапарт на звальненне.

Андрэй нават трапіў у ізалятар на "суткі", а сёння тытулаваны атлет застаўся без працы.

*"У асноўным прысвячаю час сям'і, у нас жа маленькая дачка,* – кажа **Андрэй Краўчанка**. – *І, безумоўна, трэніруюся, набіраю форму, хаця пра ўдзел у нейкіх стартах казаць, мабыць, заўчасна. Тым больш пра выступленне на Алімпіядзе.*

*Справа ў тым, што зараз я далечваю нагу, яна ячшэ баліць. Таму пра паўнавартасныя трэніроўкі казаць не даводзіцца. У мяне пасля аперацыі ў назе стаяць шрубы, і яны да канца не рассмакталіся. Урач казаў, што праз дзевяць месяцаў іх не будзе, але ўжо год прайшоў, а праблема застаецца".*

Спартсмен адзначае, што працягвае сачыць за тым, што адбываецца ў краіне.

*"У галаве не ўкладваецца, што такое можа здарыцца ў краіне, якая знаходзіцца ў цэнтры Еўропы,* – дадае Андрэй Краўчанка. – *Але мы жывём у гэтых рэаліях…"*




## Алена Леўчанка з'ехала ў Грэцыю

Адна з лепшых баскетбалістак у гісторыі Беларусі, якая выступала за зборную з 2001 года і двойчы гуляла ў складзе нацыянальнай каманды на Алімпійскіх гульнях, таксама падтрымала рух спартсменаў супраць гвалту і фальсіфікацый на выбарах.

У кастрычніку яе арыштавалі ў аэрапорце, калі яна збіралася вылецець у іншую краіну, і яна адсядзела 15 сутак на Акрэсціна.

Зараз Алена Леўчанка стала іграком вядомага грэчаскага клуба "Панацінаікас" і знаходзіцца ў Грэцыі, дзе трэніруецца разам з новай камандай.

*"Боль, страх, сумневы, расчараванне, стомленасць, здрада, адчуванне, што здаюся, падзенне і новы ўздым,* – напісала Леўчанка на сваёй старонцы ў Instagram. – *Турма, каранавірус – я ўсё гэта перажыла. Гэта мая праўда і мая гісторыя, якую я працягваю пісаць. Але без гэтых пачуццяў я не пазнала б, хто такі Бог, што такое сапраўдная вера, што значаць любоў, дараванне, цярпенне і падзяка. Што значыць сустрэцца са страхам, калі ўсе дзверы зачынены і ты не можаш уцячы. Калі быць моцнай – гэта адзіная магчымасць.*

*Калі людзі сумняваліся ўва мне, я працавала яшчэ больш старанна. Калі казалі, што я больш не буду гуляць у баскетбол, я іх не слухала. Калі раілі забыць і ісці далей, я прыслухоўвалася да свайго сэрца і не губляла веры.*




*Гэта было доўгае падарожжа, але цяпер я тут. Шчаслівая стаць часткай сям'і "Панацінаікаса" – клуба з вялікай гісторыяй і неверагоднай падтрымкай. Дзякуй, што запрасілі мяне!"*

## Валянціна Зелянкевіч асвойвае Маскву

Чэмпіёнка Беларусі па трыятлоне вымушана была з'ехаць у расійскую сталіцу пасля таго, як яе папярэдзілі пра магчымы арышт.

Спачатку **Валянціна Зелянкевіч** распавядала, што было вельмі складана адаптавацца да новых умоў жыцця і працы, бо ўсё даводзілася пачынаць з нуля. Тым больш што ў Маскве спартсменка сур'ёзна захварэла на каранавірус і нават ляжала ў шпіталі.



Але зараз яна працуе інструктарам у адным са спртыўных клубаў і кажа, што праца яе задавальняе.

*"Прайшло паўгода з таго часу, як я з'ехала з Мінска ў Маскву,* – паведаміла Валянціна. – *Паводле маіх суб'ектыўных адчуванняў, я прайшла доўгі і вельмі няпросты, але такі патрэбны для мяне шлях.*

*Я перажыла і справілася з многімі праблемамі, стала разумнейшай, мудрэйшай і мацнейшай. Адчуваю магчымасць і сілы зноў расправіць плечы!"*

## З Кацярынай Сныцінай не працягнуць кантракт?

Днямі стала вядома, што жаночая зборная Беларусі па баскетболе на чэмпіянаце Еўропы-2021 згуляе ў групе з камандамі Іспаніі, Славакіі і Швецыі.




Фінальная частка першынства пройдзе з 17 па 27 чэрвеня ў Іспаніі і Францыі, але да канца не зразумела, ці згуляе там капітан беларускай зборнай Кацярына Сныціна, якая таксама вядома сваёй грамадзянскай пазіцыяй.

31 сакавіка ў спартсменкі заканчваецца кантракт з федэрацыяй, а новы варыянт могуць і не падпісаць.

*"Я пацвярджаю, што мне даслалі новы кантракт, бо папярэдняе пагадненне заканчваецца,* – кажа Кацярына. – *У кантракце ёсць пункт 2.25, які гучыць так: "не дапускаць публікацый і выступленняў у сродках масавай інфармацыі без узгаднення з Наймальнікам".*

*Я азнаёмілася з кантрактам, распісалася на кожнай старонцы, адправіла назад. Але пункт 2.25 закрэсліла з рэмаркай "не згодна з гэтым пунктам". Лічу, што маю правы на свабоду выказвання і зносін з усімі СМІ па любых пытаннях".*

Паводле слоў старшыні Беларускай федэрацыі баскетбола **Максіма Рыжанкова**, *"Міністэрства спорту не можа адысці ад афіцыйна зацверджанага тэксту кантракта, а таму ў дадзенай сітуацыі разглядае пазіцыю Сныцінай як адмову ад прапановы".*

Таму не вядома, ці будзе падпісаны кантракт з Кацярынай Сныцінай і ці выступіць яна на чэмпіянаце Еўропы.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

СІТУАЦЫЯ

# Гарналыжны комплекс за мільён долараў. Ці не жадаеце набыць?

*На некаторых інтэрнэт-пляцоўках, дзе размяшчаюцца бізнес-аб'явы, не так даўно з'явілася паведамленне: "Прадаецца гарналыжны комплекс у Мінскай вобласці".*

Размова ідзе пра першы ў Беларусі гарналыжны цэнтр "Якуцкія горы" ў Дзяржынскім раёне. Заяўлены кошт – 2,6 мільёна беларускіх рублёў (каля мільёна долараў).

Нагадаем, што Парк актыўнага адпачынку (тэрыторыя складае 13,5 га) атрымаў назву ў гонар вёскі Якуты, ля якой ён быў заснаваны ў 2001 годзе.

*"Комплекс мае ўсё неабходнае для актыўнага адпачынку людзей розных узроўняў спартыўнай падрыхтоўкі,* – гаворыцца на сайце парка. – *Тут можна не толькі актыўна і весела адпачыць з сябрамі або сям'ёй, але і арганізаваць цэлае свята. Вялікай папулярнасцю ў Мінску сталі карыстацца выязныя карпаратывы, і гарналыжны комплекс падыходзіць для гэтага як нельга лепш. Вялікая ўтульная тэрыторыя, акружаная лесам, зручнае размяшчэнне, а таксама схілы рознага ўзроўню складанасці, як для пачаткоўцаў, так і прафесійныя стромкія горы, – усё гэта дазваляе кожнаму знайсці забаву па душы".*

Зімой на тэрыторыі "Якуцкіх гор" можна было пакатацца на бегавых лыжах, спусціцца з гары на сноўбордзе альбо цюбінгу, праехацца па лесе на снегаходзе ці адпачыць у кафэ.





У комплексе прадстаўлены 480-метровая гарналыжная траса з перападам вышынь у 60 метраў і пад'ёмнікам, цюбінгавыя трасы, рэстаран, драўляны павільён на 250 гасцей, шацёр, альтанкі, лазня з басейнам на 400 кубічных метраў.

Ёсць таксама пейнтбольная і валейбольная пляцоўкі, два палі для міні-футбола, трасы для квадрацыклаў і горных веласіпедаў.

*"Цэнтр ужо не працуе, гэтай зімой мы нават не адкрываліся,* – распавялі "Народнай Волі" супрацоўнікі парка адпачынку. – *Комплекс закрыты, зараз у ім захоўваецца мінімальны штат работнікаў, для таго каб падтрымліваць у парадку тэрыторыю".*

У гарналыжным цэнтры пакуль не каментуюць сітуацыю, але ў бліжэйшых нумарах мы больш падрабязна распавядзём пра тое, чаму комплекс усё-такі вырашылі прадаць.

**Алесь СІВЫ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
12 САКАВІКА 2021 г.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



### Суд не апраўдаў яго, але Богу апеляцыю пашле

У Брэсце суд прызнаў вінаватым Генадзя Шутава, які атрымаў смяротнае раненне ад кулі вайскоўца падчас пратэсту.

Хіба ж у гэты час пракляты
Ва ўлады логіка відна?
Той, хто забіў, – невінаваты,
Каго забіў – на тым віна.
Пра гэта ўсе, напэўна, чулі:
Падчас пратэсту ён спярша
Загінуў ад няўмольнай кулі
І паляцела ў рай душа,
Затым і суд "гуманны самы"
Прызнаў ягоную віну.
Хіба што гэтакія драмы
Былі ў мінулую вайну…
Прысуд той не здзівіў нікога –
Па завядзёнцы ўсё… Але
На свеце тым, бадай, да Бога
Ён апеляцыю пашле.
Забойца атрымае кару –
Спазнае ў пекле шмат пакут,
Яго ж нявінную ахвяру
Там апраўдае Страшны суд…

### Усім насыціцца пара энергіяй правадыра

Падчас Усебеларускага народнага сходу ваенны камісар Гомельскай вобласці Андрэй Крываносаў наблізіўся да прэзідыума і папрасіў Аляксандра Лукашэнку паціснуць яму руку. Вярнуўшыся ў Гомель, ваенкам пастроіў сваіх калег і "перадаў ім энергію", паціснуўшы рукі афіцэрам першага шэрагу, а тыя – астатнім…

Калі было ў разгары "веча"
(Назваць той сход інакш – грэх),
Як да бацькоў сваіх малеча,
Ён да прэзідыума бег.
Перапалох сярод аховы:
А што ж патрэбна мужыку?
– Рыгоравіч! – пачулі словы. –
Прашу паціснуць мне руку!
І працягнуў па-панібрацку
Кіраўніку сваю далонь.
Хіба ж паціснуць цяжка Бацьку
Таму, хто не крычыць "далоў"?
Ён нават і абняў бы, мусіць,
Тых, што яму крычаць "віват",
Тым больш што сёння ў Беларусі
Такіх людзей не надта шмат,
А трэба, каб было багата…
І кіраўнік падаў "пятак",
Руку калегі-дэлегата
Паціснуў ён. І моцна так!
І дэлегат адданы гэты
Сказаў узрушана яму:
– Каб дасягнуць агульнай мэты,
Я ў Вас энергію вазьму!
Мы ўсіх наццэмаў пераможам,
Калі і іншым перадам!
– Ты хто?
– У горадзе над Сожам
Я Ваш надзейны ваенкам!
Калі на сходзе дэлегаты
Праблемы вырашылі ўсё ж,
Паехаў ваенкам дахаты –
Туды, дзе хвалі гоніць Сож.
Ён, каб энергію не сцерці,
Яшчэ на полцы ў цягніку
Рашыў, што аж да самай смерці
Не будзе мыць сваю руку –
Памыюць перад іншым светам…
Сабраў у зале ўсіх калег
І ім паведаў, як з імпэтам
Ён да прэзідыума бег
І як энергіяй напотым
Яго насыціў кіраўнік,
Каб быў сапраўдным патрыётам
І каб запал яго не знік.
Ну, словам, выглядаў героем
Палкоўнік з галавой сваёй,
Калі расказваў перад строем
Пра векапомны подзвіг свой.
І быў яшчэ ад ваенкама
Зварот: – Мужчыны і жанкі!
Каб прычасціліся таксама,
Звычайным поціскам рукі
Усім я перадаць гатовы
Энергію правадыра.
Іх так натхнілі тыя словы,
Што тройчы крыкнулі: "Ура!"
І ваенкам паціснуў рукі
Усім, хто стаў у першы рад.
А каб паменш было дакукі,
Казаў ім: – Перадай назад!
І кожны з іх расправіў плечы,
І быў ва ўсіх давольны від!
***
Вось так, сябры мае, дарэчы,
Перадаецца ў нас кавід…

ЧУЛІ?

# Бюсты Касцюшкі і Каліноўскага з'явяцца ў Нью-Ёрку




Так, помнікі нацыянальным героям мяркуецца ўсталяваць каля будынка Кафедральнага сабора Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў Нью-Ёрку. Аўтар іх – **Генік Лойка**.

Апошнім часам карыстальнікі сацсетак выказвалі хваляванне з прычыны знікнення скульптара з грамадскай прасторы (сярод іншага, Лойка – аўтар помніка Тадэвушу Касцюшку ў Косаве). Увосень ён быў асуджаны на 20 сутак, адбываў пакаранне на Акрэсціна, больш пра яго нічога не было вядома шырокай грамадскасці.

Генік Лойка з'явіўся ў "Фэйсбуку" і напісаў, што сапраўды адбываў пакаранне на Акрэсціна, у Жодзіне і Магілёве, а цяпер знаходзіцца ў Нью-Ёрку. Таксама ён паведаміў, што зрабіў бюсты Тадэвуша Касцюшкі і Кастуся Каліноўскага: *«Бюсты адліты з бронзы. Засталося іх усталяваць на беларускай зямлі. Чамусьці (вядома чаму) Радзіма пакуль што іх не прымае. Дык Амерыка ласкава прадаставіла нам свой кантынент. І мы зараз будзем засноўваць пастаменты пры беларускай царкве Св. Кірылы Тураўскага на лапіку беларускай зямлі ў горадзе Нью-Ёрку»*.

Зянон Пазьняк адзначыў, што скульптуры выкананы на высокім мастацкім узроўні, і заклікаў беларусаў свету далучыцца да збору грошай на ўсталяванне бюстаў.

*(nn.by)*



ДА ВЕДАМА

## Шведскія медыкі высветлілі, колькі захоўваюцца антыцелы да COVID-19

У тых, хто перахварэў на COVID-19, імунітэт да віруса захоўваецца на працягу як мінімум дзевяці месяцаў пасля хваробы, высветлілі вучоныя Каралінскага інстытута і клінікі Дандэруда. Паводле іх дадзеных, у гэты перыяд надзвычай нізкая верагоднасць паўторнага заражэння, паведамляе *«КоммерсантЪ»*.

Даследаванне праводзілася з вясны 2020 года, у ім бралі ўдзел 1884 чалавекі, якія працуюць ва ўстановах аховы здароўя і перахварэлі на COVID-19. У 96% з іх антыцелы заставаліся праз дзевяць месяцаў. У дзвюх трацей выпрацаваўся клетачны імунітэт. З 340 чалавек, у якіх з'явіліся антыцелы, рэцыдыў выявілі менш як у 1%.

Як распавяла ўрач клінікі Дандэруда і навуковы супрацоўнік Каралінскага інстытута **Шарлот Талін**, пры паўторным захворванні ў чалавека дзякуючы выпрацаванаму імунітэту можа быць прыглушана сімптаматыка, або хвароба будзе працякаць бессімптомна. *«Не вядома, ці можа чалавек з антыцеламі, захварэўшы зноў, інфікаваць іншых і пры гэтым не адчуваць ніякіх сімптомаў, але гэта, напэўна, вельмі малаверагодна»*, – дадала ўрач.

У маі плануецца правесці наступную фазу даследавання, калі большасць яго ўдзельнікаў пройдуць вакцынацыю.

СВЕТСКАЯ ХРОНИКА

# Как живут внучки Горбачева, которые почти не бывают в России

*У первого и последнего президента СССР Михаила Горбачева, который 2 марта отметил 90-летие, большая семья. Правда, единственная дочь и внучки проживают вдалеке от родины – причем уже очень много лет.*



Михаил Горбачев с дочерью Ириной.



Ксения Вирганская-Горбачева с Михаилом Сергеевичем.

Известно, что 63-летняя Ирина давно обитает в Германии, но регулярно приезжает в гости к отцу в Москву.

Много лет назад Михаил Горбачев с женой потеряли сына.

В немецкий Мюнхен дочь Горбачева переехала примерно в середине нулевых, чтобы заняться работой при именном фонде своего отца, который имел представительство в этой стране. Кстати, в то время Ирина уже успела выйти замуж во второй раз – за бизнесмена Андрея Трухачева. При этом женщина до сих носит фамилию своего первого супруга, известного московского хирурга Анатолия Вирганского, от которого родила двух дочерей.

Сегодня наследницы клана Горбачевых уже и сами взрослые женщины со своими семьями. Старшей внучке политика Ксении 41 год, а младшей, Анастасии, в конце марта исполнится 34.

Обе учились в МГИМО, затем перебрались в Германию к матери. Судя по редким сообщениям в соцсетях, внучки Горбачева приезжают в Россию к деду только по очень большим праздникам.

В юности Ксения и Анастасия всегда находились в центре внимания и считались одними из основных представительниц столичной тусовки. Внучки Горбачева часто появлялись на светских мероприятиях и даже дефилировали по подиумам у друзей-дизайнеров. Кажется, мир моды и шоу-бизнеса действительно увлекал сестер. Так, Ксения в свое время работала в пиар-службе певицы Валерии, затем была «глянцевым» журналистом и даже стала главным редактором модного издания L'Officiel. Когда же Вирганская решила уехать на ПМЖ в Германию и завязать с наскучившей ей журналистикой, этот пост заняла Ксения Собчак.

Судя по последним сведениям, в Европе старшая внучка экс-президента СССР держит вместе с отчимом небольшой бутик коллекционного вина. Актуальных данных о личной жизни женщины нет. Известно, что в студенческие годы она вышла замуж за однокурсника Кирилла Солода, но вскоре развелась с ним. Затем Ксения сочеталась браком с бывшим концертным директором Авраама Руссо Дмитрием Пырченковым. Именно в этот момент молодожены и переехали в Германию, где появилась на свет их единственная дочь Саша. На сегодняшний день Ксения и Дмитрий в разводе.



Анастасия Вирганская с мужем Дмитрием (архивное фото).

Внучки Михаила Горбачева – Анастасия и Ксения на 80-летии деда.

Младшая внучка Горбачева Анастасия оказалась более удачливой в любви. Во время учебы в МГИМО девушка стала встречаться с аспирантом исторического факультета Дмитрием Зангиевым. Со временем избранник звездной наследницы получил престижную работу в пиар-команде люксовых модных брендов, но главной его страстью была и остается музыка.

В юности Анастасия пробовала себя в бьюти- и фэшн-журналистике, но сегодня посвящает всё свободное время исключительно семье: мужу и 5-летнему сыну Никите.

Судя по снимкам в закрытом аккаунте Вирганской в «Инстаграме», у супругов весьма обычный дом, не похожий на дизайнерские квартиры других наследников известных фамилий. К тому же Анастасия и ее муж увлечены миром субкультур. Отрастившему длинные волосы Дмитрию, судя по всему, близка эстетика хиппи, а Анастасия обожает японские комиксы, аниме и вселенную сериала «Игра престолов».

Раньше дружная семья Горбачевых часто собиралась вместе, но со временем количество визитов сократилось. Одна из причин этого – состояние Михаила Сергеевича. По слухам, в последние годы политик очень часто обследуется в больницах и проводит длительные курсы лечения. А во время пандемии Горбачев и вовсе изолировался от внешнего мира, чтобы не подвергать себя опасности.

Желаем здоровья ему и его близким!

**Александра БОРИСОВА.**
*(woman.ru)*

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск. вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 326-68-71
Рэкламны аддзел (017) 363-66-04
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.).